# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.; ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; **1 нумар** — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; **250 фр.;** 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 **фэнігаў** (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — **90 фэн.** (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 25–26 (359–360) | Нядзеля, 30 чэрвеня 1957 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 11


# Прарок Нацыянальнага Адраджэньня і Духовы Правадыр Беларускага Народу

**(ДА ЦЯТНАЦЦАТАЙ ГАДАВІНЫ СЬМЕРЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ)**

Словамі, пададзенымі ў загалоўку гэтага артыкулу, беларуская літаратурная крытыка адназгодна ацаніла Янку Купалу й вызначыла ягоне месца ў беларускай літаратуры і правадырскую ролю ў нашым нацыянальным руху. Гэткую-ж ацэну даў песьняру і ўвесь беларускі народ. Навет савецкая літаратурная крытыка, ня гледзячы на грубое хвальшаваньне творчасьці Купалы ў залежнасьці ад абавязваючага на паасобных этапах часу палітычнага курсу, гэтай правадырскай ролі Купалы і ў літаратуры, і ў народзе адмаўляць не асьмельвалася.

Каб лепш зразумець гэтую выняткавую ролю Купалы, найлепш зрабіць кароткае параўнаньне агульнага характару ягонае творчасьці з творчасьцю двух іншых вядучых паэтаў таго часу — Якуба Коласа й Максіма Багдановіча. Такое параўнаньне будзе асабліва карысным, бо ўсе тры яны — Купала, Колас і Багдановіч — былі не паўтарэньнем, але толькі дапаўненьнем адзін другога.

Якуб Колас перайшоў у гісторыю, як незраўнаны назіральнік і мастак беларускага жыцьця ў найбольш розных ягоных праявах. Хаця ў сваіх творах, асабліва лірычных, прысьвячаў шмат увагі нацыянальна-адраджэнскай праблематыцы, аднак галоўнае ягонае значэньне ў тым, што ён першы ў нашай літаратуры ў шырокіх маштабах і зь вялікім майстэрствам адмаляваў родны край і ягоную прыроду, жыцьцё, быт і духовы сьвет беларускага сялянства.

Максім Багдановіч, паэта высокай літаратурнай культуры й буйнага таленту, палажыў галоўны націск на чыста мастацкія вартасьці, уважаючы, што мастацкая дасканаласьць ужо сама ў сабе мае вялікае значэньне для нацыянальнае праблемы, хоць яе беспасярэдна не падымае. Выходзячы з такога гледзішча, ён пакінуў па сабе такія незраўнаныя мастацкія пэрлы, якія ўпяршыню вывялі нашую адраджэнскую літаратуру на эўрапэйскую ўзроўню і тым самым адыгралі вялікую нацыянальную ролю.

У вадрозьненьне ад Коласа й Багдановіча, Купала сьвядома прыняў на сябе ролю народнага трыбуна й ідэялёга беларускага нацыянальнага адраджэньня. Праблемы нацыянальнага адраджэньня сталіся амаль вылучнай тэматыкай ягонай творчасьці, а тыя нямногія творы што беспасярэдна гэтых праблемаў не закраналі, як, прыкладам, лірыка каханьня або прыродаапісальная, хавалі ў сабе глыбокі нацыянальны аспэкт. У сваей багатай творчасьці Купала абняў даслоўна ўсе адраджэнскія праблемы. Яны ня толькі шырака адлюстроўваліся ў ягоных творах, але часта ім-жа самым упяршыню падымаліся і ўводзіліся ў праграму адраджэнскага руху, як гатовыя й канкрэтна сфармуляваныя нацыянальныя, сацыяльныя, грамадзкія й навет палітычныя ідэі.

Усяго некалькі прыкладаў, узятых зь ягонае творчасьці, ужо могуць дастаткова паказаць ролю Купалы, як ідэялёга беларускага нацыянальнага адраджэньня й ягонага руху.

Ужо ў першым сваім вершы «Мужык», надрукаваным у 1905 годзе, Купала паставіў гуманітарнае дамаганьне прывярненьня чалавечай годнасьці беларускаму селяніну-мужыку, якой ён быў дагэтуль пазбаўлены. Гордая заява паэты ад імені гэтага мужыка, што «чалавек я, хоць мужык», была асноўнай і вядучай ідэялягічнай лініяй першых пачаткаў нашаніўскага адраджэнства. У пазьнейшым вершы «А хто там ідзе» гэтае дамаганьне паэта расьцягвае ўжо на ўвесь беларускі народ, які заяўляе словамі Купалы, што ён хоча «людзьмі звацца». Ідэя «людзьмі звацца» сталася кардынальным лёзунгам усяго нацыянальнага адраджэньня.

Гуманітарная ідэя нашаніўства прывярненьня людзкой годнасьці беларускаму народу хутка перараджаецца ў шырэйшую ідэю прывярненьня яму годнасьці нацыянальнай, як поўнавартаснай і раўнапраўнай нацыі ў сям'і іншых народаў. Але найбольш яркае паэтычнае сфармуляваньне гэтае ідэі даў ня хто іншы, але ўноў-жа Купала ў ведамым сваім вершы «Маладая Беларусь»: «Занімай, Беларусь, маладая мая свой пачэсны пасад між народамі!»

У мамэнт развалу клясычнае турмы народаў — царскае Расеі паняволеныя ёю народы пачынаюць будаваць сваё самастойнае незалежнае жыцьцё. Вызвольна-незалежніцкія імкненьні дасьпяваюць і ў беларускага народу ды шукаюць спробаў свайго ажыцьцяўленьня. Але ніхто іншы зь беларускіх паэтаў усяцэла ня прыймае на сябе ролі трыбуна гэтае вызвольна-незалежніцкае ідэі, як Купала. Зь нявымоўнай сілай ён заклікае беларускі народ «на сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход», які ў паэтычным выабражэньні паэты меў прадстаўляць сабой нацыянальную рэвалюцыю беларускага «аграбленага, закованага народу» (верш «На Сход»). Што гэты «Вялікі Сход» павінен быў прынесьці беларускаму народу, Купала сфармуляваў у іншым сваім вершы таго-ж 1918 году «Свайму Народу»:

«Паўстань Народ! Для будучыні шчасьце  
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед;  
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці —  
Прапаўшых не пацешыць шчасьцем сьвет».

Калі-ж нацыянальная рэвалюцыя была пераможаная грубой фізычнай сілай рэвалюцыі бальшавіцкай, Купала нявымоўна балюча адчуў гэтую народную трагэдыю, але не пагадзіўся з накінутай няволяй і не адмовіўся ад далейшага змаганьня. Праз усё амаль першае дзесяцігодзьдзе бальшавіцкае ўлады ў Беларусі ён бесьперапынна супраць яе бунтаваўся, што знайшло выразны адбітак у многіх ягоных вершах гэтага часу. Гэты свой бунт Купала завяршыў спробаю собскага фізычнага самагубства ў 1930 годзе, што было найвымоўнейшым пратэстам абясьсіленага ўжо паэты супраць собскае й народнае крыўды.

Гэтак Купала заўсёды выступаў, як народны трыбун, як прарок адраджэньня беларускага народу, як ягоны духовы правадыр, сьвядома на сябе прыняўшы гэтую вялікую нацыянальную місію, як свой натуральны абавязак перад народам. Таму значэньне й роля Купалы ніяк не ўкладаецца ў вузкія рамы адно толькі літаратурнага працэсу. Яна гэтыя рамы перарастае й абыймае сабой увесь нацыянальна-адраджэнскі й нацыянальна-вызвольны рух дадзенай пары.

Казённая бальшавіцкая крытыка, якая нахабна зьдзекавалася над Купалам у трыццатыя гады за ягоныя нацыянальныя ідэі, пазьней гэтак-жа нахабна пачала прысабечваць ягоную несьмяротную спадчыну й выстаўляць Купалу, як натхнёнага песьняра савецкае эпохі. Такое грубое хвальшаваньне Купалы праводзіцца й сяньня й, пэўне-ж, будзе праводзіцца далей, бо роля Купалы ў беларускім народзе не закончылася разам зь ягонаю сьмерцю. Згодна выпрабаванага бальшавікамі звычаю, чаго нельга зьнішчыць і бясьсьледна вычыркнуць зь гісторыі або чаго нельга зганьбіць і апляваць — трэба прысабечыць. Такая практыка праводзіцца із Купалавай літаратурнай спадчынай.

І тут астаецца пытаньне запраўдных дачыненьняў Купалы да бальшавізму пасьля жахлівага пераломнага 1930 году.

Спаміж вялікае тройкі нашаніўцаў аб Багдановічу гаварыць ня прыходзіцца. Перадчасная сьмерць паэты, што наступіла некалькі месяцаў перад кастрычніцкім пераваротам, выратавала яго ад пазьнейшых выпрабаваньняў і пакінула нам зусім незаплямленым.

Якуб Колас, на жаль, пасьля мужнага супраціву саветызацыі, які цягнуўся да канца 20-ых і пачатку 30-ых гадоў, быў ня толькі зламаны, але й пакораны. Ён астаўся нашым, беларускім, наскрозь нацыянальным толькі да вышэй успомненых гадоў, да якіх, праўда, даў усё сваё найлепшае й найвартасьнейшае, укаранаванае манумэнтальнымі ў нашай літаратуры нацыянальнымі творамі «Новая зямля» і «Сымон Музыка». Для апраўданьня Коласа можна знаходзіць розныя лагодзячыя акалічнасьці — і яны ёсьць, — але самога факту перачыркнуць нельга.

Інакш справа з Купалам. Пасьля няўдалага самагубства ў 1930 годзе, пад узмоцненым ціскам бальшавіцкага тэрору, Купала, праўда, заламаўся, але не пакарыўся да канца жыцьця свайго. У некаторых сваіх вершах быў ён змушаны прынесьці й сваю даніну бальшавіцкаму Молаху ды выслаўляць савецкае сацыялістычнае будаўніцтва, але вершы, прысьвечаныя гэтым пытаньням, былі настолькі мізэрныя артыстычна й бедныя колькасна, што не пакідаюць ніякага сумлеву аб наўмысным ігнараваньні й скрытым байкатаваньні ў іх вымушаных на ім сацыяльных заказаў. Затое ягоны запраўдны й яшчэ не аслабны талент у поўнай сіле праяўляўся ў вершах да савецкай праблематыкі нэўтральных ці толькі вонкавымі акцэсорыямі зь ёю зьвязаных, а так-жа ў многіх перакладах чужых аўтараў, пры чым дарэвалюцыйных і ідэйна яму блізкіх. Напасьледак, самагубная сьмерць Купалы 28 чэрвеня 1942 году, у якой знайшоў вызваленьне ад бесьперапынных духовых мукаў, найлепей і найвымоўней засьветчыла аб запраўдным ідэйным абліччы паэты..

Такім чынам Купала, як трагічная ахвяра бальшавізму, стаўся найпаўнейшым сымбалем трагэдыі паняволенага, але, як і ён сам, не пакоранага беларускага народу. Гэтаму народу ён самаадданa служыў на працягу ўсяго жыцьця свайго, гэтаму-ж народу й ягоным будучым пакаленьням будзе вечна служыць ягоная літаратурная спадчына.

**Ст. Станкевіч**



**Янка Купала**
**(8. 7. 1882 — 28. 6. 1942)**

## *З кутка жаданьняў*

З цэлым народам гутарку весьці,  
Сэрца мільёнаў падслухаць біцьця —  
Гэткай шукаю цэлы век чэсьці,  
Гэта адно мне падпорай жыцьця.

Песьню стварыці ясну, як неба,  
Ў кажнай зь ёй хаце быць мілым гасьцём  
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,  
Гэткім я толькі жыву пачуцьцём.

Што не загубяць крыўды жывую  
Душу народу, што ўстане із сну —  
Гэткай надзеяй толькі жыву я,  
Гэткую толькі чакаю вясну.

К яснаму сонцу зь цьмы, зь беспрасьвецьця,  
К славе зь бясьслаўя ўсім нашым людзям  
Гэткай шукаю сьцежкі на сьвеце,  
Гэткаму Богу і душу аддам.

За лепшую долю роднага краю,  
За сваіх брацьцяў ў сьвятой барацьбе —  
Гэтакай толькі сьмерці жадаю,  
Памяткі гэткай чакаю сабе.

## *Бацькаўшчына*

Зь зямлёй і небам зьвязывае мяне ніць —  
Неразарваная векчечна павуціна:  
Зямля мяне галубіць, як вернага сына,  
А сонца мне душу ня кідае туліць.

Яшчэ ў калысцы я навучыўся зь песень сьніць  
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так, мясьцінах:  
Што роднай нівы я мільённая часьціна,  
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.

Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе бяз злосьці,  
Узрос зь яе й чужых зь яе ня сьцінуў косьці,  
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.

І калі зьдзекуецца нада мною хтосьці —  
Над Бацькаўшчынай зьдзекуецца ён маей,  
Калі-ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

## *На суд*

На суд вам, кніжнікі, сябе я аддаю,  
Судзіце па стацьцёх, як піша ваш закон;  
Было-ж жыцьцё мне — ўзаконены прыгон,  
Хоць я ня даў вам і ня дам стаптаць душу сваю.

Мінаў я вашу фарызэйскую сям'ю,  
Мяне ня збэсьціў вашым ідалам паклон,  
Калі-ж з грудзей і вылятаў праклящьця стогн,  
То кляў я сам сябе і мук сваіх зямлю.

Нічым грашыць ад вас грашнейшых я ня ўмеў, —  
Піў чарку крыўды і цярпеньня — ўсё да дна,  
І не спаганіла мяне аблуда ні адна.

Адзін грэх толькі лёг мне на душу, як леў,  
Праступак, судзьдзі, мой: я сэрца, сэрца меў!  
Але ці-ж гэта так страшэнная віна?

**Янка Купала**

# Аб ліквідацыі калгасаў і ўтварэньні саўгасаў

У звароце ЦК КПСС і Савету міністраў СССР за 28 сакавіка гэтага году да ўсіх работнікаў саўгасаў адзначана, што камуністычная партыя й Савецкі ўрад будуць надалей умацоўваць і разьвіваць калгасы. Аднак, партыя, гаворыцца ў звароце, правільна робіць і бярэ курс на саўгасы. Саўгасы павінны павялічыць таварную вытворчасьць сельскагаспадарскіх прадуктаў. З гэтай мэтай партыя імкнецца рашуча палепшыць кіраўніцтва сельскагаспадарчай дзейнасьцяй саўгасаў. Будзе пашырацца таксама землякарыстаньне саўгасаў ня толькі на цаліне, але й за лік зямель, якія дрэнна выкарыстоўваюцца або пустуюць.

Паводля афіцыйных дадзеных, 1955 год закончылі саўгасы зь вялікімі стратамі. З агульнага ліку 113 саўгасаў на Беларусі 41 ня выканалі плянаў. Адзін толькі «Дунілавіцкі» саўгас даў мільён рублёў стратаў. У мінулым годзе саўгасы Беларусі працавалі яшчэ горш. Колькасьць стратных саўгасаў значна павялічылася і дасягнула 79, якія далі стратаў 30 мільёнаў рублёў. Так Бераставіцкі саўгас, Горадзенскай вобласьці замест заплянаванага прыбытку ў 70 тысяч рублёў, даў 274 тысячы рублёў стратаў. Гэта сьветчыць аб тым, што пераважная колькасьць саўгасаў на Беларусі працуе дрэнна, значна горш за калгасы і напэўна ня здольная павялічыць вытворчасьці сельскагаспадарскіх прадуктаў.

А між тым, ня гледзячы на ганебную гаспадарку ў саўгасах, яшчэ ў мінулым годзе была распачатая ліквідацыя так званых адсталых і эканамічна слабых калгасаў і арганізацыя на калгасных землях новых саўгасаў. На чацьвертай сэсіі Вярхоўнага савету БССР старшыня Дзяржпляну БССР Малінін у сваім дакладзе адзначыў: «У 1956 годзе ў рэспубліцы праведзена вялікая праца па стварэньню новых і ўзбуйненьню дробных саўгасаў за лік зямель эканамічна слабых калгасаў.» У выніку ліквідацыі калгасаў пасяўная плошча саўгасаў на Беларусі павялічылася ў тры разы.

У значна большых разьмерах будзе праводзіцца ліквідацыя калгасаў у бягучым годзе. Як паведаміў на пленуме ЦК камуністычнай партыі першы сакратар Мазураў, ЦК КПСС і Савет міністраў СССР дазволіў утварыць на Беларусі 57 новых саўгасаў і 30 саўгасаў узбуйніць. Гэтую «ласку» беларускім калгасьнікам зрабіла Масква на стараньне камуністычнага кіраўніцтва Беларусі.

Ліквідацыя калгасаў і арганізацыя зь зямель, якія перададзены калгасам савецкай уладай спэцыяльнымі актамі ў бясплатнае й вечнае карыстаньне, факт нязвычайны, да гэтага часу ня чутны. Аднак у савецкай прэсе ня было й няма ніякіх паведамленьняў.

Горкая доля беларускага прыгоннага сялянства. Аднак калгасную сям'ю да гэтага часу цешыла свая родная хата, карова, дробная жывёла й хатняя птушка, апрацованы гарод, а часта й садок. Стаўшы-ж батраком саўгасу, калгасьнік і гэтую абмежаваную ўцеху траціць. Батрак ужо адрываецца ад свайго сталага месца жыцьця. Зямля, на якой стаяла яго хата й той невялічкі прысядзібны вучастак, ужо ёсьць уласнасьцяй саўгасу. Мяняецца й праўнае становішча калгаснай сам'і. Былыя калгасьнікі пападаюць у поўнае распараджэньне саўгаснага кіраўніцтва. Гэты новы прыліў працоўнай сілы ў саўгасы можа быць накіраваны ў любое месца саўгаснай сыстэмы, у тым ліку й на цаліну Сібіру або Казахстану.

Апрача гэтых стратаў, былыя калгасьнікі павінны прынесьці сваім новым гаспадаром вялікі пасаг натураю й грашыма. Абагуленая жывёла калгасаў, гаспадарскія будынкі, розны інвэнтар, а таксама й вялізарныя непадзельныя грашовыя фонды трэба перадаць новаму гаспадару — дзяржаўнаму саўгасу.

Уся акцыя ліквідацыі адсталых калгасаў і перадача зямель і маемасьці саўгасам накіравана на тое, каб абадраць калгасьнікаў як ліпку, стварыць умовы бездапаможнасьці й безнадзейнасьці ды поўнасьцяй замацаваць за саўгасамі. Ёсьць і іншыя мэты гэтай нялюдзкай акцыі. Ліквідацыя часткі калгасаў — гэта сяродак напалоханьня рэшты калгасьнікаў. Савецкая ўлада хоча паказаць, што ўсіх калгасьнікаў чакае нявыразны лёс, калі яны апынуцца ў гэтак званых эканамічна слабых калгасах.

Ліквідацыя калгасаў — гэта новы мэтад агульнага й масавага пакараньня калгасьнікаў, а таму й праводзіцца яна бяз шырокага агалошаньня, украдкамі.

**В. Б.**

# Параза Хрушчова

**Ад Рэд.** Ніжэй перадрукоўваем з газэты «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» артыкул ведамага амэрыканскага публіцыстага Давіда Лёрэнса, прысьвечаны выступу Хрушчова ў амэрыканскай тэлевізіі. Таму што выступ гэты нарабіў даволі шуму ў вольным сьвеце, Рэдакцыя ўважае мэтазгодным зьмясьціць артыкул на бачынах «Бацькаўшчыны».

☆

Будучы камуністычным галоўнакамандуючым у «халоднай вайне»», што ахоплівае бадай цэлую зямную кулю, Мікіта Хрушчоў пацярпеў паразу, якую сам сабе падрыхтаваў. Сваім выступам у тэлевізіі ён хутчэй затармазіў, чымся дапамог справе сусьветнага міру. На працягу апошніх некалькі тыдняў у афіцыяльных колах Вашынгтону верылі, што савецкі ўрад пачаў гаварыць запраўды паважна аб раззбраеньні, перастаў іграць прапагандовыя мэлёдыйкі, шчыра намагаючыся дасягнуць нейкага пачатковага пагадненьня.

Аднак словы камуністычнага лідэра (у тэлевізіі) аднавілі падазраньне й недавер.

Прыкладам, прапанова вывесьці савецкае войска з Усходняй Нямеччыны Польшчы, Вугоршчыны, пад умовай, што Задзіночаныя Штаты вывядуць свае збройныя сілы з цэлае Эўропы — гэта непаважны падыход да аднае із самых галоўных праблемаў міжнароднае палітыкі. Запраўды, дапушчэньне савецкага дыктатара, што амэрыканскі народ ці ягоны ўрад успрыйме гэткую прапанову, даводзіць аб недахопах камуністычнае лёгікі, як такой. Яна знае так мала аб сусьветнай палітыцы й простых правілах вайсковае аховы, якой вольныя народы маюць права карыстацца ў іхных собскіх інтарэсах.

Калі-б Задзіночаныя Штаты вывялі свае сілы з Эўропы, вольныя краіны былі-б выстаўлены на небясьпеку раптоўнае атакі. У дзьвюх сьветавых войнах Задзіночаныя Штаты мусілі пасылаць свае арміі праз Атлянтычны акіян ратаваць Эўропу, але ў 3-яй сьветавай вайне на гэта ня было-б больш часу.

☆

Хрушчоў вельмі хацеў-бы, каб амэрыканскі народ недаацэньваў важнасьці стратэгічна разьмешчаных паветраных базаў за акіянам, базаў, якімі Задзіночаныя Штаты могуць цяпер карыстацца, ды якія зьяўляюцца неабходнымі для абароны вольнае Эўропы. Камуністычны-ж дыктатар прапануе ня толькі вывесьці амэрыканскія наземныя сілы з гэтага кантынэнту — але таксама здаць усе заморскія базы, што абслугоўваюцца цяпер амэрыканскімі самалётамі, і маюць быць хутка запоўнены кіраванымі на адлегласьць атамнымі ракетамі.

Тымчасам, цяжкія бамбавікі Савецкага Саюзу могуць дасягнуць кажную вольную краіну Эўропы — а яны ўсе разам недастаткова моцныя, каб супрацьстаяць камуністычным сілам, і апынуліся-б на ласцы Крамля. Тое, што Хрушчоў прапануе — гэта форма дабраахвотнага падданьня з боку Захаду. Таксама кажны ведае, што насельніцтва заходніх краінаў баіцца нападу, і калі-б абарона з дапамогай Амэрыкі была немагчымай, камуністычная інфільтрацыя ўва ўсе краіны была-б куды лягчэйшай.

У выпадку наступнае вайны, яна мусіць праводзіцца хутка, і акцыя адплаты павінна наступіць неадкладна пасьля атакі. Амэрыцы ня будзе часу дамаўляцца аб карыстаньні заморскімі базамі, пасылаць самалёты й патрэбныя абсталяваньні за акіян. Вось чаму сэнат Задзіночаных Штатаў зламаў традыцыю колькі гадоў таму, і вялічэзнай бальшынёй галасоў зацьвердзіў Паўночна-Атлянтычны Пакт. Гэты пакт гаворыць выразна, што напад на адну з 15 краінаў — сяброў Атлянтычнага Пакту будзе разглядацца таксама, як напад на самыя Задзіночаныя Штаты. Такі напад азначае раптоўную вайну — навет без пастановы Кангрэсу.

Цяпер прадстаўнік Крамля хоча, каб Амэрыка здала сваю стратэгічную перавагу — гэтую адстрашвальную сілу — у замен за вывад на паперы савецкіх збройных сілаў з Усходняе Нямеччыны, Вугоршчыны й Польшчы.

Кажнаму ведама, што калі савецкія збройныя часткі, разьмешчаныя ў Вугоршчыне, дэзэртавалі падчас леташняга выбуху, іншыя савецкія часткі былі хутка ўведзеныя ім на падмену. Масква мае сваіх генэралаў і вышэйшых ахвіцэраў у кажнай сатэлітнай краіне ды ў кажнай зь мясцовых арміяў. Усе кіраўнікі ўрадаў у розных сатэлітных краінах маюць за сабой расейскае вышкаленьне й камуністычную мінуласьць. Таму гаварыць, што справы радыкальна зьмяняцца толькі таму, што савецкія арміі адыйдуць колькісот кілямэтраў назад — гэта абвінавачваць лідэраў заходняга сьвету ў празьмернай лёгкавернасьці.

☆

Хрушчоў меў адвагу сказаць слухачом і глядачом амэрыканскага радыя й тэлевізіі што ў выпадку вайны капіталізм будзе зьнішчаны, але камунізм выжыве. Гэта паўтараў Молатаў, калі ён быў пры ўладзе, і тады пагаворвалі аб магчымасьці 3-яе сьветавае вайны, у якой будуць ужывацца атамныя й вадародныя бомбы. Цяпер Хрушчоў лёгкадумна паўтарае гэты сталінскі аргумэнт. Ён паўтарае яго перад амэрыканскай аўдыторыяй, якая, на ягоную думку, паверыць у гэты абсурд.

Калі атамная вайна выбухне, народы Савецкага Саюзу ўскладуць адказнасьць за яе на камуістычных лідэраў. Яна будзе азначаць сьмерць камунізму, таму што ацалелыя не даруюць яму вайны, у якую ён іх папхнуў.

Тое, чаго Хрушчоў цяпер запраўды баіцца — гэта нутраная рэвалюцыя. Ён, праўдападобна, не адважыўся-б дазволіць амэрыканскаму прадстаўніку свабодна гаварыць перад аўдыторыяй савецкіх грамадзян у радыі, тэлевізіі, ці прэсе Савецкага Саюзу.

Хрушчоў сам давёў, што амэрыканскаму ўраду будзе немагчыма зрабіць «торг» ці дасягнуць пагадненьня зь людзьмі ў Крамлі — гэтымі сьведамымі ворагамі свабоды.

**Давід Лёрэнс**

# Крыху аб гісторыі

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Што-ж уяўлялі ў той час, г. зн. ў X-XII стагодзьдзях, беларускія землі й якія былі іхнія адносіны да Кіеўскага княства? Праўда, мы ня маем дастаткова гістарычных дадзеных, каб поўнасьцяй разьвязаць гэтае пытаньне, аднак і тыя выпадковыя запісы падзеяў, што адлюстраваліся ў кіеўскіх і ноўгарадзкіх хроніках нам даюць зусім іншы малюнак аб беларускіх землях, чымся ён паказаны ў сучасных працах расейскіх ды іншых гісторыкаў. Вось-жа гэтыя запісы нам выразна гавораць аб тым, што асноўная частка беларускіх земляў у X стагодзьдзі ня мела нічога супольнага зь Кіеўскім княствам. Мы маем на ўвазе Полацкае княства, якое жыло сваім апрычоным жыцьцём і валодала правабярэжжам Дняпра, улучаючы сюды й землі пазьнейшага Турава-Пінскага княства. Незалежнымі ад Кіева да часоў уладаньня Ўладзімера Сьвятога былі таксама Радзімічы й Вяцічы, што жылі па рэчках Сожы й Ацэ. Апошнія падпалі пад уладу кіеўскага князя ў 80-ых гадах X стагодзьдзя, г. зн. пасьля часовага падзеньня Полацку. Цесна зьвязанымі зь Кіевам былі Северане й Смаленская зямля. Апошняя ляжала на гандлёвым шляху, званым «з Варагаў у Грэкі», а таксама на дарозе зносінаў між двума блізкімі цэнтрамі — Кіевам і Ноўгарадам — і была падбітая першай, як важны стратэгічны пункт для апошніх. Бяручы пад увагу той факт, што пра Смаленск амаль нічога не ўспамінаецца пад час канфліктаў Полацку зь Кіевам і Ноўгарадам, трэба дапускаць, што ягоныя мясцовыя князі былі зьнішчаныя, а іхняе месца займалі адміністратары, пастаўленыя кіеўскімі князямі. Зрэшты, з паловы XI-га стагодзьдзя тут сядзяць дзеці кіеўскіх князёў.

У другой палове X-га стагодзьдзя насьпявае першы знаны збройны канфлікт між Полацкім княствам з аднаго боку, Ноўгарадам і Кіевам з другога. Гэта збройная схватка Полацкага князя Рогвалада з Ноўгарадзкім князем Уладзімерам у канцы 70-ых гадоў стагодзьдзя. У выніку гэтай вайны была вынішчана дынастыя полацкіх князёў па мужчынскай лініі, дачка Полацкага князя Рогвалада зьняважаная, а само Полацкае княства сьпярша было прылучана да Ноўгараду, а пасьля да Кіеўскага княства, калі гэтае апошняе было здабыта Ўладзімерам. Гэтая залежнасьць трывае аднак ня доўга. З паваротам зь кіеўскага палону Рагнеды ў канцы 80-ых гадоў гэтага стагодзьдзя аднаўляецца незалежнасьць Полацкага княства. Праўда, яно траціць цяпер шматлікія свае землі, пайменна Турава-Пінскія землі, Віцебскую зямлю, Воршу й Усьвят. За гэтыя землі распачнецца ўжо ходаньне полацкіх князёў у наступным стагодзьдзі.

XI стагодзьдзе азначаецца ў гісторыі Полацкага княства варожымі адносінамі полацкіх князёў да князёў кіеўскіх. Яно распачынаецца здабыцьцём полацкім князем Брачыславам у 1021 годзе Ноўгараду. Гэта наступае помста за спрычыненае зло ў прошлым стагодзьдзі. Брачыслаў разграбляе Ноўгарад, захапляе й уводзіць з сабой шматлікіх палоненых ноўгарадцаў. На паваротным шляху ён сустракаецца з войскам кіеўскага князя Яраслава, якое сьпяшыла на дапамогу Ноўгараду. Летапісцы паведамляюць, што пры гэтай сустрэчы Брачыслаў быў пераможаны, мусіў быў пакінуць палоненых і зьбегчы ў Полацак. Аднак тут застаецца ня высьненым пытаньне, што прымусіла Яраслава пайсьці на вялікія ўступкі й перадаць Брачыславу ў гэтым-жа годзе, а магчыма ў гэты самы час, Віцебскую зямлю зь Віцебскам, Усьвят, праўдападобна таксама што й Воршу. Калі-б Яраслаў запраўды моцна пабіў Брачыслава ў гэтай схватцы, ён не патрабаваў-бы зракацца сваіх ранейшых заваёваў, і гэтым самым яшчэ больш узмацняць свайго ворага.

Больш шырэйшую акцыю супраць Кіеўскай Русі вядзе Брачыславаў сын Усяслаў, які сеў на бацькава месца ў 1044 годзе. Гэты ўжо распрацоўвае плян свае акцыі, сьціроўваючы ўсю ўвагу на поўнач — на Пскоў і Ноўгарад, што залежалі ад кіеўскіх князёў і прадстаўлялі для Полацку вялікую небясьпеку. У 1066 годзе ён здабывае Пскоў, а пасьля і Ноўгарад. Гэты напад Усяслава на паўночныя ўладаньні Кіеўскае Русі прыводзіць да паўторнае сустрэчы з злучанымі сіламі кіеўскіх князёў: Ізяслава, Сьвятаслава Ўсевалада. У сваім паходзе на Полацак гэтыя князі здабываюць Менск па дарозе, зьнішчаючы ягонае жыхарства за аказаны супраціў. У гэты час падасьпявае аднак Усяслаў з сваім войскам і заграджвае далейшы шлях ворагу. Дзьве арміі сустракаюцца на рацэ Нямізе пад Менскам, дзе 3 сакавіка 1067 году разгараецца вялікая бітва, што ўвайшла ў гісторыю, як самая жорсткая й крывавая. Выйгрыш бітвы й тут кіеўскі летапісец прыпісвае злучаным сілам кіеўскіх князёў, аднак вельмі сумніўна, каб гэтыя князі атрымалі бліскучую перамогу над Палачанамі, ды наагул ці атрымалі якуюсь. Пасьля гэтае бітвы яны чамусьці не адважыліся праследаваць «недабітага» ворага, але, павярнуўшы назад, адыйшлі каля Воршы за Днепар. Раськінуўшыся тут лягерам, яны пачынаюць мірныя перамовы з Усяславам. Найбольш праўдападобна, што якраз сам Усяслаў праследваў кіеўскае войска да гэтага места. Гэта пацьвярджаецца тым, што пад час гэтых перамоваў Усяслаў быў таксама на Дняпры насупраць варожага лягеру. Ведама, ня выпадала-б пераможанаму Ўсяславу шмат рызыкаваць, выяжджаючы спэцыяльна з Полацку на перамовы. Нарэшце гэта пацьвярджаецца й тым, што Яраславічы больш не адважыліся памерыцца сіламі з Усяславам, але пайшлі на хітрыкі і абман, загарадзіўшыся Дняпром. Прысягнуўшы «ў імя крыжа», што «ня спрычыняць ніякага зла» Ўсяславу, калі гэты згодзіцца пагаварыць за адным сталом, яны гэткім спосабам заманьваюць Усяслава ў свой лягер. Аднак, як толькі Ўсяслаў ступіў з сваімі двума сынамі на варожы бераг, ён быў схоплены тут, закаваны і заведзены ў Кіеў, скуль вызваліўся толькі дзякуючы зьбегу абставінаў. Пайменна быў выпушчаны зь цямніцы самымі кіяўлянамі і навет пасаджаны імі на залаты пасад Кіеўскага княства.

Няма ніякіх вестак аб тым, што ўяўляла сабой Полацкае княства пасьля паланеньня ягонага князя. Праўдападобна, што яно заставалася незаваёваным у руках сыноў Усяслава. На нядоўгі час Полацак быў захоплены пасьля зрачэньня Ўсяславам кіеўскага пасаду й ягонага зьбегу ў сваю родную краіну. Помсьцячыся за кіеўскі пасад, выгнаны кіеўскі князь Ізяслаў, які толькі што вярнуўся з Польшчы з польскім каралём Балеславам, каб адабраць назад дарутаны Ўсяславу кіеўскі пасад, накіроўваецца ў 1069 годзе на Полацак і здабывае яго. Князь Усяслаў змушаны быў пакінуць Полацак і скрыцца ў лясох з сваёй дружынай, падрыхтоўваючыся тут да новага ўдару. У міжчасе ён робіць няўдалы набег на Ноўгарад, а летам 1071 году на Полацак, скуль і выганяе кіяўлян. На працягу гэтага й наступнага году ён ачышчае сваю зямлю ад кіеўскіх гарнізонаў. На гэтым аднак Усяслаў ня спы-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Створаная генэральнай асамблеяй ЗН адмысловая камісія дзеля расьсьледваньня вугорскіх падзеяў апублікавала свой даклад. Камісія, у якую ўваходзілі дэлегаты 5 краінаў — Аўстраліі, Даніі, Тунісу, Уругваю і Цэйлёну, змайстравала гэты даклад аж на 2-х тысячах друкаваных бачынаў. Камісія папрацавала ахвярна падчас апытваньняў шматлікіх удзельнікаў вугорскіх падзеяў і навочных сьветкаў. Як вынікае з дакладу, праца камісіі была сумленнай і аб'ектыўнай: былі апытваныя сьветкі з розных клясаў насельніцтва, з розных партыйных угрупаваньняў, уключаючы камуністых і былых камуністых. Вынікам гэтай доўгай і ахвярнай працы зьяўляецца вышэй прыгаданы даклад на 2-х тысячах бачын друку для ЗН. У ім пераконваюча і абгрунтавана даказваецца што вугорская рэвалюцыя была стыхійнай, спантанічнай, народнай, няінсьпіраванай з Захаду, што гэта рэвалюцыя ня мела на мэце павароту капіталістычнага ладу, але свабоду Вугоршчыны, што вялізарная бальшыня вугорскага народу падтрымоўвала рэвалюцыю, што савецкая інтэрвэнцыя ў Вугоршчыне была актам расейскай агрэсіі, што рэвалюцыя была крывава здушаная савецкай арміяй, што ўрад Кадара не зьяўляецца законным і трымаецца на акупацыйных савецкіх дывізіях, што...

Шмат яшчэ іншых праўдаў і фактаў сьцьвердзіла камісія. Толькі, што... усе гэтыя праўды і факты былі ўжо ведамыя ў лістападзе мінулага году. а калі хтось не хацеў аб іх ведаць, дык і рапарт на 2-х тысячах бачын яго напэўна не пераканае Ня думаем, што ў ньюёрскім Палацы Нацыяў сядзяць такія цёмныя і наіўныя дыпляматы, што яны мусілі аж з адмысловага рапарту адмысловай камісіі даведвацца праўды аб вугорскіх падзеях. Такім чынам, мазольны даклад камісіі зьяўляецца адкрываньнем Амэрыкі або вынаходжваньнем пораху ў сотні гадоў пасьля Калюмба і Шварца.

Уся гэтая акцыя выразна паказвае, што яна зьяўляецца ратункам перад поўнай кампрамітацыяй ЗН, якая не змагла паўстрымаць савецкай агрэсіі ў Вугоршчыне і ўся ейная дзейнасьць зводзілася да некалькідзённай гаварыльні. Праца камісіі мела быць доказам, што нешта робіцца. Толькі што ад гэтай работы Маскве нічога не пагоршала, а бедным Вугорцам нічуць не палепшала.

Затое цяпер паўстае пытаньне, што зрабіць з гэтымі 2-мя тысячамі бачын дакладу?

Урад Злучаных Штатаў заявіў, што мае намер склікаць прадстаўнікоў 24-х краінаў, зь ініцыятывы якіх была створаная камісія, каб супольна «разгледзіць усе магчымасьці, як згладзіць крыўду, зробленую савецкім урадам вугорскаму народу». З свайго боку аўстралійскі міністар замежных спраў асьветчыў, што ягоны ўрад будзе дамагацца скліканьня генэральнай асамблеі ЗН дзеля разгледжаньня дакладу аб Вугоршчыне і зробленьня адпаведных мерапрыемстваў. У параўнаньні з памерамі прыгаданага дакладу гэтыя «магчымасьці» вельмі-ж мізэрныя, а «мерапрыемствы» не варожаць посьпехаў, бо на энэргічныя мерапрыемствы спадзявацца нельга. З свайго боку Амэрыка ня вельмі прыхільна адносіцца да скліканьня генэральнай асамблеі, а як аргумэнт — між іншымі — высоўвае цьверджаньне, што сэсія асамблеі перашкодзіла-б канікулам дэлегатаў і што кошт скліканьня сэсіі мог-бы быць за вялікі... З другога боку Францыя, якая ў мінулым годзе была за энэргічнай акцыяй на карысьць Вугоршчыны, цяпер зьмяніла крыху думку, не бяз слушнасьці прадбачваючы, што ў вадказ на дэбаты аб Вугоршчыне савецкі ўрад паставіць справу Альжыру. Каб паказаць, што «нешта робіцца», аднак нічога не зрабіць, што магло-б абразіць Расею, у заходніх колах лянсуецца думка выслаць у Будапэшт генэральнага сакратара ЗН Гамэршэльда. Была-б гэта акцыя, якая якраз на руку Маскве і ейным мар'янэткам у Будапэшце.

*

Адначасна з дакладам камісіі ЗН, Міжнародная Камісія Юрыстых, якая зьехалася ў Гаазе, апублікавала камунікат з пацьверджаньнямі фактаў, пададзеных у дакладзе. Далей Міжнародная камісія Юрыстых адцемлівае, што тэрор кадараўскага рэжыму ў Вугоршчыне ўзрастае. За апошніх сем месяцаў гэты рэжым расстраляў каля пяці тысяч удзельнікаў паўстаньня. Таксама камісія сьцьвярджае, што лік дэпартаваных у Савецкі Саюз вугорскіх грамадзянаў перавышае 35 тысяч. Факты, таксама, ня рэвэляцыйныя. Толькі, як змусіць Кадара, каб спыніў тэрор? Мала ёсьць шансаў, каб намовы далікатнага Гамэршэльда зрабілі пажаданы ўплыў на азьвярэлага Кадара. Як да гэтага часу, ніводная дзяржава вольнага сьвету навет ня спыніла дыпляматычных зносінаў з маскоўскімі мар'янэткамі і катамі вугорскага народу.

# Атамная паніка на Захадзе — мэтай Масквы

**АД РЗДАКЦЫ.: Пад такім загалоўкам ведамая польская газэта «Дзеньнік Польскі», што выходзіць у Лёндане, зьмясьціла ў сваім 138 нумары за 11. 6. 57 артыкул Т. Норвіда, які, з гледзішча на сваю актуальнасьць і трапную ацэну сытуацыі, варты таго, каб зь ім пазнаёміць і нашых чытачоў.**

☆

У красавіку расказвалі ў Парыжы наступную гісторыю: сябра ЦК француская камуністычнай партыі праф. Жульё-Куры маніўся ў парыскім радыі прачытаць адзін із сваіх артыкулаў аб небясьпецы атамнай вайны для цывільнага насельніцтва. Некалькі дзён перад гэтым праф. Жульё прагаварыўся ў прыватнай гутарцы, што ЦК французскай камуністычнай партыі атрымаў выразныя інструкцыі з Масквы распачаць прапагандовую кампанію з мэтаю выклікаць атамную паніку ў Францыі і змагацца з праектам «Эўратому». Гэтая нядыскрэцыя мела дайсьці да шэфа парыскага радыя, які ў сувязі з гэтым адклікаў уведзены ўжо ў праграму даклад праф. Жульё.

— «Калі Масква хоча гэтага, ня можа гэта быць у інтарэсах Францыі» — меўся выразіцца дырэктар радыя з гэтае нагоды.

Менш з тым, ці гісторыя гэтая праўдзівая, шмат плётак пачуць можна ў Парыжы.

У цэлай Заходняй Эўропе шалее цяпер дэбата на тэму эвэнтуальнай катастрофы атамнае вайны. Фактычна пытаньне штораз часьцей ставіцца ў роўніцы, што для Захаду лепш скапітуляваць перад савецкай вадароднай бомбай, чымся рызыкаваць зьнішчэньнем сьвету, бо што Саветы будуць таксама зьнішчаныя ў выпадку вайны — не зьяўляецца ніякай пацехай.

### Што выклікала дыскусіі

Пакінем у баку ўвесь фактычны бок справы і зоймемся яго бокам чыста палітычным. Якія факты скланілі заходніх інтэлектуалістых і палітыкаў раптоўна заняцца пытаньнем небясьпекі будучай вадароднай вайны? Выглядае, што атамная дэбата ёсьць вынікам пастановы Вялікабрытаніі перайсьці на атамнае ўзбраеньне, весткі аб новым жыраскопе амэрыканскім, які павялічвае цаляльнасьць кіраваных стрыльнаў на 2 400 клм. і распачацьце сэрыйнай прадукцыі гэтых стрыльнаў у ЗША. Коратка кажучы: ўзмацненьне Захаду на адрэзку атамных збраеньняў. Якраз гэтае ўзмацненьне, гэтая перавага (можа часовая) Захаду выклікала «рэвалюцыю сумленьняў» і неспакой заходніх інтэлектуалісстых аб будучыні чалавецтва.

### Чаму якраз цяпер?

Можна запытацца, чаму гэтая рэвалюцыя сумленьняў і гэтая хваля пратэстаў на Захадзе ня мела месца паўтара году таму, калі ў лістападзе 1955 году Саветы абвесьцілі, што даканалі ўдалага экспэрымэнту выбуху вадароднай бомбы на вялікай вышыні, калі Хрушчоў афіцыяльна асьветчыў у ваднэй із сваіх прамоваў у Індыі, што Саветы маюць абсалютную перавагу над Захадам у галіне навачаснага аружжа. Ніхто ня чуў тады на Захадзе (ані тым больш на Ўсходзе), каб якія-небудзь вучоныя або палітыкі галасна выказвалі страх з прычыны гэтае перавагі Расеі. Нідзе не падняўся ніводзін голас, ані адно выражэньне зарганізаванага пратэсту супраць збраеньняў Саветаў і радыяактыўным рэзультатам іхных экспэрымэнтаў у мірным часе.

Калі Саветы паміж чэрвенем 1956 г. і сакавіком 1957 г. даканалі 12 экспэрымэнтальных выбухаў атамных і вадародных бомбаў і цэлага раду дасьветчаньняў зь кіраванымі стрыльнамі — аб чым паведамлялі афіцыяльныя камунікаты ТАСС-у — мы ня чулі ні воднага пратэстуючага голасу на Захадзе. Дзе былі тады й што думалі гэныя інтэлектуалістыя й палітыкі Захаду, якія сяньня надзяваюць вопратку Касандры? Ці таму не пратэставалі, што ня верылі ў яыніці сваіх пратэстаў супраць Саветаў? Але-ж ад многіх год абавязвае звычай на Захадзе, што гуманітарныя інтэлектуалістыя пратэстуюць супраць усякіх злачынстваў і змоваў на бясьбечнасьць чалавецтва — ня гледзячы на тое, ці гэта дасьць якісь вынік, ці не. Відаць, выясьненьня гэтага маўчаньня трэба шукаць інакш, бо ўся авантура пачалася на Захадзе толькі тады, калі зьбліжаліся тэрміны англасаскіх экспэрымэнтаў.

### Хто пагражаў

Праўда, што атамныя бомбы былі ўжытыя толькі раз у гісторыі Амэрыканцамі ў Японіі. Але таксама праўда, што ад 1945 году заходняя дыпляматыя ані разу не пагразіла ужыцьцём атамнай бомбы для падтрыманьня сваіх аргумэнтаў перад Саветамі. У паваенным пэрыядзе выразная такая пагроза была зробленая затое савецкай дыплямацыяй у лісьце Булганіна да прэм'ераў Вялікабрытаніі й Францыі падчас суэскага канфлікту. Менш выразных пагрозаў і выказваньняў пад адрасам Захаду было шмат болей, у часе, калі Булганін у сакавіку й красавіку 1957 г. перасьцерагаў прэм'ераў заходняэўрапэйскіх дзяржаваў супраць згоды закладаць на іхных тэрыторыях амэрыканскія атамныя базы.

### «Штокгольмскі апэль»

Гэтак званы «Штокгольмскі апэль» з 1949 году мела падпісаць 500 000 000 чалавек. У гэтым апэлі галоўным пунктам быў пратэст супраць «амэрыканскай атамнай дыплямацыі», г. зн. палітыкі, якая мела весьці шляхам вымушаньня сілай і пагрозай атамнай бомбы да ўступак Саветаў на карысьць Захаду. Гэтая палітыка (няма довадаў, што ЗША ўзапраўды тарнавалі такую палітыку) мела няўхільна весьці да вайны і якраз супраць гэтай вайны пратэставаў «Штокгольмскі апэль» у імя міру і будучага шчасьця чалавецтва.

І ўзноў можна спытацца, дзе былі й што думалі гэтыя 500 000 000 чалавек тады, калі Булганін сьціраваў свой ліст зь нядвузначнымі атамнымі пагрозамі да Моле й Ідэна? Ці падняўся хоць адзін голас пратэсту й голас асуджэньня гэтым разам зусім выразных пагрозаў Булганіна ў тагачаснай сытуацыі, якая ўзапраўды магла пагражаць вайной і ў якой савецкіх пагрозаў напэўна нельга было прыймаць абыякава? Як вытлумачыць, што гэных поўмільярда чалавек, зь якіх 100 000 000 на Захадзе, ня рэагавала на канкрэтныя атамныя пагрозы Булганіна, аднак ахвяравала свой подпіс пад прыклёпам тады няіснуючых, а толькі інсынуаваных аналягічных пагрозаў з боку ЗША? Дык-жа толькі малая часьць гэных 100 мільёнаў — гэта камуністыя, якія думаюць, як камуністыя савецкія. Ці гэных некалькі дзясяткаў мільёнаў, якія падпісалі «Штокгольмскі апэль», узапраўды ўважае, што калі атамную бомбу пачне ськідаць Булганін, дык усё ў парадку, але што будучыня чалавецтва толькі тады загрожаная, калі гэта зробіць Айзэнгаўэр? Хіба што не. І тут хіба трэба шукаць вытлумачэньня дзесьці інш.

### Прапагандовая арганізацыя Саветаў

Здаецца, што найлепшы адказ на гэтае трывожнае пытаньне знайшоў вышэй успомнены дырэктар парыскага радыя. Вялізарная, шырака разгалінёная й дыспануючая вялікімі сяродкамі і ўплывамі арганізацыя з посьпехам дзеіць на Захадзе і мае магчымасьць фармаваць заходнюю апінію паводля савецкіх інструкцыяў. Яна гэта змабілізавала 100 мільёнаў подпісаў пад «Штокгольмскім апэлям», затое перашкодзіла ўсякім масавым пратэстам супраць савецкіх лягераў нявольніцкай працы, у якіх яшчэ нядаўна было 18 мільёнаў чалавек, гэтак як перашкодзіла пратэстам супраць вадародных пагрозаў Булганіна ў восені 1956 г. Была аднак за слабая, каб здушыць пратэсты супраць вугорскіх выпадкаў.

### «Прыбудоўкі»

Арганізацыя гэтая ня ёсьць фікцыяй. Ёсьць ёй г. зв. «рух за мір» з цэнтраляй, цяпер у Празе, падназовам «Сьветавая Рада Міру». Гэтая арганізацыя ня дзеіць цераз камуністычныя партыі, але цераз г. зв. прыбудоўкі, г. зн. розныя палітычныя партыі й грамадзкія арганізацыі, інфільтраваныя і ў запраўднасьці кіраваныя камуністымі. Могуць быць гэта левыя, камуністычныя групы сярод радыкальных і сацыялістычных партыяў, сярод прафэсіянальных саюзаў, арганізацыі сацыяльнага тыпу, гуманітарнага, навуковага й г. д. «Прыбудоўкі» гэтыя маюць вялізарныя магчымасьці інсьпіраваньня, уплываньня на фармаваньне апініі. Ніхто здаровы псыхічна ня можа

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Амэрыка аб незалежнасьці народаў

**АД РЭДАКЦЫІ**: З нагоды 39-ай гадавіны абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі стараньнямі амэрыканскіх грамадзян беларускага паходжаньня ў Пэорыі (штат Ілінойс у ЗША) былі высланыя лісты Прэзыдэнту ЗША Айзэнгаўэру, выканаўчым і ўставадаўчым органам у Вашынгтоне, у якіх насьвятлялася змаганьне й імкненьні беларускага народу да вызваленьня й дзяржаўнае незалежнасьці. На ўсе лісты надыйшлі адказы з запэўненьнямі прыхільнасьці й сымпатыі для беларускае вызвольнае справы. Адзін з гэтых лістоў — ад Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША — адрасаваны на ведамую ўжо нашым чытачом спадарыню Веру Жызьнеўскую, ніжэй зьмяшчаем. У лісьце запэўняецца, што ўрад ЗША зьяўляецца прыхільнікам вызваленьня спад камуністычнае ўлады й самавызначэньня народаў, а так-жа іхнае дзяржаўнае незалежнасьці. Гэта найлепшы довад, што пазыцыя амэрыканскага ўраду зьяўляецца зусім іншая й супярэчная пазыцыі розных амэрыканскіх «прыватных колаў», якія й пасьля зьнішчэньня бальшавізму хацелі-б захаваць адзіную й непадзельную расейскую імпэрыю.



DEPARTMENT OF STATE
WASHINGTON

May 7 1957

Dear Miss Zyznieuski:

After consideration at the White House, your letter of March 22, 1957 to the President has been sent to the Department of State so that we might also see your comments. Thank you for making them available. We have brought them to the attention of interested offices of the Department.

The Government of the United States is aware of and deeply interested in the aspiration of the peoples of the Soviet Union for liberation from the Communist regime and for the establishment of a system of self-government freely elected by and responsible to them. The United States has consistently adhered to the doctrine of self-determination for the subjugated peoples of the Soviet Union who seek independence. The form of government to be established once independence is won is considered to be a matter for determination by the peoples themselves.

Sincerely yours,

For the Acting Secretary of State:

John P. Meagher
Chief
Public Services Division

**ДЗЯРЖАЎНЫ ДЭПАРТАМАНТ**
Вашынгтон

7 травеня 1957

Дарагая Спадарычня Жызьнеўская,

Пасьля разгляду ў Белым Доме, Ваш ліст з 22 сакавіка 1957 году да Прэзыдэнта быў перасланы Дзяржаўнаму Дэпартаманту, каб мы таксама маглі пазнаёміцца з Вашымі камэнтарамі (выясьненьнямі). Дзякуем Вам за тое, што Вы зрабілі іх даступнымі. Мы зьвярнулі на іх увагу зацікаўленых установаў Дэпартаманту.

Урад Задзіночаных Штатаў паінфармаваны й глыбока цікавіцца імкненьнямі народаў Савецкага Саюзу да вызваленьня спад камуністычнага рэжыму ды да ўстанаўленьня імі сыстэмы самакіраўніцтва, свабодна выбранага й адказнага перад імі. Задзіночаныя Штаты зьяўляюцца поўнымі прыхільнікамі дактрыны самавызначаньня ў дачыненьні да паняволеных народаў Савецкага Саюзу, якія дамагаюцца незалежнасьці. Дзяржаўны лад, які мае быць устаноўлены пасьля здабыцьця незалежнасьці, уважаецца справай самых народаў.

Шчыра Ваш,

За выконваючага абавязкі Дзяржаўнага Сакратара

(—) Джон П. Мігэр

Шэф Аддзелу Публічных Справаў

---

К. Акула 4)

# Тараканы ў саладусе

**Камэдыя ў 3-ох дзеях)**

## ДЗЕЯ ТРЭЙЦЯЯ

Адбываецца два гады пасьля другой дзеі ў канцылярыі Беларускай Касы Самапомачы. Пасярод стол, навокал чатыры крэслы, збоку каля левай сьцяны лава. З правага боку — дзьверы. На сьцяне — партрэт Купалы й Пагоня.

### ЗЬЯВА I

**Янка Жыхар, Мікола Корч, сябра Ўправы Касы**

ЯНКА: Паважаныя сябры ўправы. Паклікаў я вас сюды сягоньня каб вырашыць справу аднэй пазычкі на суму дзьвюх тысяч даляраў. Хачу вас адразу папярэдзіць, што трэба добра перадумаць, бо справа тут нялёгкая. Чалавек гэты ў мінулым прынёс нам нямала клопатаў, а ніякай карысьці...

МІКОЛА: Гэта аб кім вы гаворыце?

ЯНКА: Аб Пінку, хіба-ж ясна...

МІКОЛА: Не, мне ня зусім ясна. Ня ведаю, як тут нашаму сябру... (глядзіць з запытаньнем на сябру Ўправы Касы).

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Мне спадар старшыня ўжо тоесёе расказваў аб гэтым. (Да Міколы) Думаю што й вам?

МІКОЛА: Так, гаварыў, хоць можа ня ўсё...

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Дык вось, можа будзеце ласкавы тады, спадар старшыня, высьвятліць цэлую справу грунтоўна, для канчатковай, проста сказаць, яснасьці...

ЯНКА: З ахвотаю, сябры, з ахвотаю. Дарэчы, як вы самі ведеце і пэўна чулі, хадзіла пра Пінкаў шмат плётак і дзеля таго, каб даведацца праўду, я гаварыў із Павэлкам Музыкантам, што ў Пінкаў жыве, тэлефанаваў на працу, дзе Пінк працуе, заходзіў у банк, дзе ён пачаў ашчаджаць грошы, і тоесёе даведаўся ад іншых із тым, што гаварыў із самымі старымі Пінкамі.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Ага, цікава...

ЯНКА: Ня так цікава, як сумна. Выглядае, што ўсе Пінкавы беды пачаліся з таго часу, як аддаў дачку за гэтак званага інжынера. Кажу гэтак званага таму, што гэты інжынер аказаўся самай чыстай вады жулікам. Як ажаніўся — кінуў школу, наняў дарагую кватэру, пазалазіў у даўгі: панакуплівaў мэбляў і аўта, ды пачаў жыць, як кажуць, на шырокую нагу. Пранюхаў, мусіць, басяк гэты, што старая некалькі тысяч грошы мела ў панчошыне і давай розныя хітрыкі строіць. Абгаліў старых што называецца...

МІКОЛА: Дык гэта ўсё-ткі праўда?

ЯНКА: Вядома-ж, што праўда.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Дык як-жа гэта яны так даліся?

ЯНКА: Вось-жа спытайце. Тут ці ня больш старая вінаватая. Хацела дачушку інжынерыхай зрабіць. А той жулік на гэта нядурны. Пранюхаў, што грошы ёсьць, дык як толькі крэдытары прыцісnуць да сьцяны — ён так і давай націскаць на жонку. А тая да маці із плачам: ратуй, мамачка, жыць не даюць. Тая мамачка як пачала ратаваць, дык, відаць, да апошняга даляра даскраблася.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: А Госпадзі мой, як-жа так можна на старасьць здурэць!

ЯНКА: Тут, як некаторыя пляткуюць, дзяўчына найбольш вінаватая, бо мела неасьцярожнасьць басяку гэтаму калісь грашмі пахвастацца.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Ну й шкада людзей на старасьць.

ЯНКА: Як-жа не шкада. Здавалася-б, што гэта мусіць быць добрай навучкай для іншых, як за чужынцаў замуж ісьці, ды яшчэ добра не пазнаўшы.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Хіба-ж вы гэтым ня хочаце сказаць, што чужынцы ўсе басякі?

ЯНКА: Барані Божа. Я гэтага не сказаў. Але вось якраз на басяка трапілі... Калі-ж ходзіць аб Пінкаў, дык іхная віна тут найбольшая. Трэба было жабе гэтай носа падцерці й не даваць такой волі. Ато йшчэ й спатуралі. Няхай-жа йдзе, чалавек-жа інжынерам будзе. А тут табе інжынер. Адно дзіця зьляпіў і ўжо падобна із другім ходзіць. А сам толькі цягаецца пазаўгольлях. Зрабіўся, як кажуць, самы апошні басяк: ні ў яго розуму ў галаве, ні працы людзкай...

МІКОЛА: А што-ж ягоныя бацькі на гэта?

ЯНКА: Ягоныя бацькі? І знаць яго ня хочуць. Хацелі навучыць, а як школу кінуў бязь іх ведама, дык і паслалі сваей дарогай. Вы думаеце, каб ён бацькоў сваіх слухаў, то-бы зрабіў гэтак? (Хвіліна маўчаньня). А старому Пінку бяда. Тут якраз скора падходзіць тэрмін за дом рэшту заплаціць. Кажа, што тры тысячы вінават. Адну дзесьці дастае ў знаёмых, а рэшту нідзе ніяк ня можа дастаць. Знаеце, сябры, што калі мы яму адмовім, то можа страціць хату. А чалавека трэба-ж было-б выратаваць.

МІКОЛА (устаючы ад стала): Цьфу! Ізноў выратаваць. Раз ужо дапамаглі, а ён як нам адудзячыўся. Разумныя гэткія — ён ды яшчэ й дачка... (дражніць Таню) — Джоў, мой дарлінг. Цьфу, пляваць хочацца. Калі мы яму раней сьмярдзелі то чаму-ж у чужых не пазычыць грошы?

ЯНКА: У банку ягоным я даведаўся, што адмовілі. Яны цяпер наагул з пазычкамі ня надта сунуцца. Сам-жа Пінк мне казаў, што зьвяртаўся да некаторых чужых касаў і там яму не пазычылі, а пасылалі да сваіх...

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Дык значыцца ізноў найперш шукаў па чужых?

ЯНКА: Так, сябры. Гэта даволі вымоўны факт. Як ведама, чалавек гэты, калі не ў бядзе ён, даволі фанабэрысты і далёка недасканалы. Зрэшта, можа зьвяртацца яму адразу да нас было й нялоўка, аж пакуль ня было іншага выхаду.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Дык дзе-ж зарука таго, што навет як дадзём яму пазычку, ён станецца актыўным і карысным сябрам нашага грамадзтва?

ЯНКА: Выглядае, што ён ужо добра навучыўся і будзе трымацца сваіх. Такое я меў уражаньне, гаворачы зь ім. Але рызыка ёсьць. Ды, калі ўжо аб гэта ходзіць, дык уся наша грамадзкая праца на чужыне — гэта рызыка.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Ну а як-жа ягоныя гарантыі?

ЯНКА: Гэта ў парадку. Мае добрых паручыцеляў ды й шмат грошы ў доме. Мае сталую працу.

МІКОЛА (ходзячы): Хто яго тут ведае з гэтым Пінкам? (Да Янкі) — А як вы? Даць ці ня даць?

ЯНКА: Трэба было-б пазычыць.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Мне таксама здаецца. Бог зь ім, можа паправіцца.

ЯНКА: Значыцца вы за?

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Няхай сабе.

ЯНКА: А вы, Мікола?

МІКОЛА: Я? Хто-ж яго тут ведае (махае рукой). — Эх, няхай ужо будзе, дзе маё не прападала.

ЯНКА (з усьмешкай): Ну, калі ходзіць аб тваё, дык яно тут ужо не прападзе, бо даўно прапала й распладзілася.

МІКОЛА: Гэта зусім ня сьмешна. Ды й маей віны тут ані на макулінку. Хацела выйсьці ў людзі, ды яшчэ й за чужынца, ну дык і выйшла. Адным словам так наінжынерыла, што аж бацьком пад старасьць сорамна сваім людзям у вочы глянуць.

ЯНКА: То можа, сябры, будзеце ласкавы тады падпісаць, што апрабуеце.

# Добрае лякарства, але яно не адзінае

У 353-ым н-ры «Бацькаўшчыны» артыкулам «Аб студэнтах і студыях» Янка Запруднік прабуе даць адказ на праблему, закранутую мною раней ды выказаную на бачынах «Бацькаўшчыны» ў разважаньнях «Бачым хваробу, а чым лячыць».

Гэтую працяжную, хранічную немачхваробу хвальшаваньня ды выкручваньня нашае мінуўшчыны ды ідэі нашага вызвольнага змаганьня за незалежнасьць мы наглядаем ня толькі вонках нашага аддзейваньня, але нат і ўнутры. Пра шкоднасьць гэтага зьявішча й не даводзіцца шырока гутарыць, гэта кажны сам дасканала разумее.

Возьмем для прыкладу гэтых сьведамых і нясьведамых усякага тыпу цемняроў, якія ёсьць, калі ня між намі, дык прынамся пасуседзку. Ёсьць-жа ў нас такія, што страцілі незалежнасьць ужо пасьля Крэўскае вуніі, іншыя пасьля Люблінскае, а іншыя яшчэ па Берасьцейскай толькі

У паясьненьні гісторыі, што зьяўляецца так важым фактарам адраджэньня ды адначасна мэтрыкай нашае дзяржаўнае законнасьці, сколькі-ж там няўдалых промахаў ды сьведамага ці нясьведамага перакручваньня гістарычных фактаў. У нас яшчэ нямала й такіх, што нат і пяром карыстаюцца ў публіцыстыцы, а ня маюць яснага пагляду на нашую мінуўшчыну. Перадалі мы й расказалі, што Вялікае Княства Літоўскае — гэта наша дзяржава, а ня толькі тое, што там была наша мова й культура?

І проста — аж сьмешна. Тагачасная Жмудзь з Аўкштотай, што сяньня называецца Летувой, у гэтай нашай старой дзяржаве мела ня болей удзельнае вагі, чымся Лужыцкія Сэрбы, што жывуць над Спрэвай недалёка ад Бэрліну, мелі сваю вагу ці ўклад у Прусію Фрыдэрыка ці Бісмарка. А нам даводзіцца ня толькі дзяліцца нашай слаўнай мінуўшчынай зь сяньняшнімі Лятувісамі, але нат выступаць у зьмененых ролях, што яны гаспадары над намі. Ды ці пералічыш усе падобныя парадоксы.

Лічу сваім абавязкам заявіць, што я не пасягаю на сувэрэнныя правы Лятувісаў ці іхную тэрыторыю. Таксама ня маю ніякае інтэнцыі абражаць іхныя пачуцьці; наадварот, чую да іх пашану ды поўнае прызнаньне за іх салідарнасьць, гаспадарчатворны інстынкт, які яны праявілі ў сваім незалежным гаспадарстве між дзьвюма сьветавымі войнамі, ды жадаю ім ад душы хуткага адбудаваньня йзноў свае незалежнасьці. Але ніколі не пагаджуся з думкаю, што яны спрычыніліся да Грунвальду, выкінулі Татараў зь Кіеўшчыны, стагодзьдзямі адбівалі атакі Масквы, ці білі Швэдаў пад Кірхгольмам.

Выясьняньне гэтых справаў належыць гуманістым, бо яны кампэтэнтныя ў гэтай дзялянцы; ім у першай чарзе належыць грунтоўная, навуковая абарона нашых нацыянальных інтарэсаў, як таксама гуманістым належыць у першай лініі і далейшае разьвіваньне нашае культуры.

Таму й правільным быў заклік сп. Запрудніка да нашай моладзі, каб не аглядалася на карысьці матар'яльныя ды йшла па лініі гуманістычных навук, як гісторыя, мовы, літаратура і г. д. Думка надта важная ды заклік вельмі актуальны. Гістарычна трэба дадаць, што з гэткім самым заклікам зьвярнуўся ў перадваенныя часы ў радох Віленскага Студэнцкага Саюзу Антось Шукелайць.

Як бачым, гэтая справа ўжо тады разглядалася, як надта важная, і цяпер, пасьля дваццацёх год, з вуснаў амальшто наступнага пакаленьня паўторанная, паказвае ня толькі на яе сталую актуальнасьць, але й проста неабходнасьць. Патрэбныя нам нашыя гуманістыя. Пра гэта ня толькі трэба гутарыць, але й стварыць пэўны маральны ціск, каб наша моладзь з гуманістычнымі нахіламі й замілаваньнямі йшла па гэтай лініі.

Аднак, пры гэтай акцыі, калі гутарым нат і пра маральны ціск грамадзкае апініі, наша грамадзкасьць павінна пачуваца да пэўнага мінімальнага забавязаньня. Вядома, што без свае дзяржавы гуманістычныя навукі не забясьпечваюць ані працай ані элемэнтарным матар'яльным утрыманьнем. Таму й пра гэта неабходна нам ня толькі думаць, але й дапамагчы тым людзям, што пойдуць па лініі абароны нашых нацыянальных інтарэсаў.

Ня лічу за патрэбнае даводзіць, што, прыкладам, знаток беларускае гісторыі ці літаратуры, працуючы пры разборцы старых дамоў, ня будзе мець змогі ўдала бараніць нашыя інтарэсы. Высноў ясны — сваёй дзейнасьцяй трэба нам падзяліцца ды падтрымаць усёй грамадзкасьцяй такіх людзей. Прыклады першых нашых адраджэнцаў дыктуюць такую пастанову справы. Матар'яльныя нявыгады без пары пазаганялі ў гроб такіх людзей як, прыкладам, др. Т. Грыба, І. Луцкевіча ды шматлікіх іншых. Ці можам мы дапусьціць, каб такія выпадкі паўтараліся і ў будучыні?

З самых разважаньняў ня шмат карысьці, а таму пяройдзем да канкрэтных прапановаў. Грамадзкая апінія павінна асудзіць праявы матар'ялізму сярод моладзі. У нездаровай пагоні толькі за добрым заработкам крыецца вораг людзкое душы — матар'ялізм. А кажны матар'ялісты ня здольны да ніякага патрыятызму. Людзі гэтае катэгорыі ніколі нікому ня прынесьлі ніякае карысьці, ня прынясуць яе й нам. А «мёртвых-жа душаў» нам ня трэба.

Нельга таксама ўсіх заганяць на гуманістычныя навукі ды адганяць ад тэхнічных ці практычных дзялянак жыцьця.

Дзеля нацыянальнае карысьці, як таксама й собскага маральнага задаваленьня найлепш, калі моладзь ідзе ў тыя дзялянкі жыцьця, куды яе цягне замілаваньне. Толькі ў такім выпадку можна спадзявацца, што яна знойдзе ў сваёй будучай прафэсіі найбольш собскага задаваленьня, што зьяўляецца неабходнай перадумовай для таго, каб у гэтай прафэсіі быць запраўды паўнавартаснай адзінкай, што ў выніку дасьць і нацыянальную карысьць.

Няправільна й крыўдна асуджае сп. Запруднік нашу былую моладзь з Заходняй Беларусі, кажучы, што быццам эканамічная сытуацыя выробляла ў ёй нахіл да тых студыяў, якія гвараптавалі ў выніку найбольшы матар'яльны дабрабыт. Праўда, безгаловая палітыка перадваеннае Польшчы, накіраваная на гвалтоўную асыміляцыю нацыянальных меншасьцяў, запраўды стварала такія ўмовы, што сьведамаму беларускаму студэнту гуманістычныя прадметы былі амаль недаступнымі. Як, прыкладам, мог сьведамы беларускі студэнт пайсьці на гісторыю ды потым працаваць у гэтай галіне? Трэба адразу сказаць, што ён, як нацыянальна сьведамы, не дастаў-бы ніякае працы, ня меў-бы доступу да ніякіх архіваў і дакумантаў, без чаго нельга паважна займацца гісторыяй. Таму й зразумела, што будучы зданымі на няпрыхільнасьць і варожасьць чужое акупацыйнае адміністрацыі, беларускія студэнты найахвятней ішлі на мэдыцыну, бо яна давала потым матар'яльную незалежнасьць. І толькі ўжо маючы гэтую незалежнасьць, яны маглі весьці нацыянальную працу. Нашыя мэдыкі таго часу праяўлялі сябе, як дынамічныя грамадзкія дзеячы. Дзеля прыкладу возьмем хаця-б др. Станіслава Грышкевіча, сэньёра. Цэлы шэраг публікацыяў запоўнілі гэтаму чалавеку прыгожае месца ня толькі ў нашай публіцыстыцы, але й наагул у радох грамадзка-адраджэнскіх дзеячоў. Падобным тыпам чалавека быў др. Туронак.

Праўда, спэцыфічны характар лекарскае прафэсіі ў ЗША выняткава некарысны дзеля нейкай грамадзка-нацыянальнай акцыі. Хто сюды прыехаў ужо як лекар, зьвязаны й абцяжаны прафэсыйнымі заняткамі больш за хвабрычнага работніка. А і сваім матар'яльным становішчам яшчэ вялікі працэнт нашых лекароў, прыехаўшы сюды, не зраўняліся з работнікамі на хвабрыках.

Лекараў, як і ўсялякіх тэхнікаў, практычная асьвета не звальняе ад абавязку нацыянальна-грамадзкае працы. Кажны, хто толькі скончыў сярэднюю школу, ужо да яе здольны ды самаадукацыяй можа папоўніць недахопы, якія пакідае за собой практычная асьвета. Гэтае цьверджаньне — ня утопія. Згадаем толькі да якога ўзроўню дасканаласьці шляхам самаадукацыі дайшоў наш вялікі Ластоўскі. Трэба толькі хацець ды разглядаць гэта як нацыянальны абавязак.

Бязумоўна, гуманістычная асьвета вельмі важная на шляху нашага змаганьня за нацыянальную гаспадарстваную незалежнасьць. Але яна яшчэ далёка ня ўсё. Шмат важнейшым зьяўляецца нацыянальна-маральны ўзровень моладзі, а потым ужо прафэсіянальны. Над гэтым асабліва павінна задумацца нашая студэнцкая моладзь, як і тыя, што яшчэ нядаўна пакінулі ўнівэрсытэцкія сьцены. Толькі натхнёныя гэтай мараляй ды стойкасьцяй характару, нашы студэнты сяньняшняга дня забясьпечаць здаровую ды жыцьцяздольную нацыянальную інтэлігенцыю, якой стане сілы ўзяць на сябе адказнасьць нацыянальнага авангарду, ды якая будзе гарантыяй перамогі на нашым шляху да незалежнасьці.

Ці сучасная студэнцкая моладзь вырабіла ўжо собскі тып інтэлігента-незалежніка? Ці гэты тып стаўся ўжо агульным? Калі-ж гэта яшчэ не асягнута, дык ці моладзь разумее сваю гістарычную адказнасьць перад будучыняй ды ці мае амбіцыю ды імкненьне ў гэтым кірунку?

Трэба памятаць, што агульна нацыянальны абавязак ляжыць ня толькі на гуманістых. Яны характарам сваёй асьветы найбольш быстра й правільна могуць пабачыць найбольш пэўныя шляхі; яны павінны быць натхненьнем і кіраўнікамі як у змаганьні так і ў разьвіцьці жыцьця народу ў незалежным гаспадарстве, але ня толькі яны адныя маюць быць змагарамі.

**К. Стагіч**

# Атамная паніка на Захадзе — мэтай Масквы

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

пасуджаць, прыкладам, Альбэрта Швайцэра, Бэртранда Расэля ці заходнянямецкіх прафэсароў, што зьяўляюцца сьвядомымі інструмэнтамі бягучай савецкай замежнай палітыкі. Але, прыкладам, такая справа, што іхныя выказваньні, што прычыняюцца да павялічэньня на Захадзе панікі, атрымалі вялікі розгалас, а іншыя, што зь імі палемізуюць, былі стушаваныя, што адным асобам было лёгка высказвацца выгадна для Саветаў, іншым было цяжка, што ў некаторых групах людзей былі арганізаваныя супольныя пратэсты, поўнасьцю ляжыць у магчымасьцях г. зв. «руху за мір», які абсалютна ня згубіў сваей пружыністасьці.

**5 мэт**

Атамная паніка на Захадзе — гэта з гледзішча Саветаў ключ, які адмыкае шмат дзьвярэй. Паніка гэтая можа мець паважныя, а з гледзішча замежнай палітыкі вельмі пажаданыя для Саветаў вынікі. Яна можа: а) зрабіць мала магчымым ужыцьцё атамнай зброі, б) зьменшыць бюджэты на атамныя досьледы, в) аслабіць арганізацыі дзяржаўнай цывільнай абароны, г) памагчы палітычна тварэньню фольксфронтаў, д) даць Саветам час, неабходны для «дагнаньня» Захаду й пазбаўленьня яго сяньняшняй пераваrі з усімі палітычнымі вынікамі гэтага факту.

Гэта атамная паніка на Захадзе, толькі на Захадзе, у ўсходнім блёку цэнзура не дапусьціць да аналягічнай панікі, адкрывае Саветам пэрспэктыву бяскрывавай, бязумоўнай капітуляцыі Захаду. Саветы аб нічым болей не лятуцяць. Ім зусім не залежыць на перамозе ў будучай атамнай вайне. Такая перамога абазначала-б эвэнтуальнае панаваньне над атамным пабоішчам, што цяпер зусім ня прынаджвае сучаснай гэнэрацыі крэмлёўскіх правадыроў. Саветы хочаць заўладаць заходнім сьветам нязьнішчаным. Атамная вайна зусім не ляжыць у інтэрэсах Саветаў і напэўна яе не пачнуць, ня маючы гарантыі на шыбкую капітуляцыю Захаду, якая-б папярэдзіла ягонае зьнішчэньне. Таму гэтая атамная паніка на Захадзе становіцца сяньня найважнейшым інструмэнтам і саюзьнікам замежнай савецкай палітыкі. Было-б добра, калі-б больш людзей на Захадзе здавала з гэтага справу, бо ўваходзім у пэрыяд, у якім фронт Усход-Захад будзе праходзіць ня ўздоўж Эльбы, а цераз мазгі заходніх палітыкаў і інтэлектуалістых, якія ў большай або меншай меры гэтай панікай абнятыя.

# «Новое Русское Слово» пра партызанаў на Беларусі

Выдаваная ў Нью Ёрку штодзённая расейская газэта «Новое Русское Слово» зьмясьціла 9 травеня сёлета артыкул Аўгена Жукава пад заг. «Вогнішчы (очаги) антысавецкага руху ў Расеі». Ня гледзячы на тое, што, як гаворыць загаловак артыкулу (антысавецкі рух у **Расеі)**, у самым артыкуле пра Расею нічога ня сказана. Затое вельмі шмат гаворыцца пра антысавецкі рух (які заўсёды быў і антырасейскім) у Латвіі Эстоніі, Летуве, Казахстане, Туркмэніі і г. д., словам — ува ўсіх захопленых Расеяй і калянізаваных ёю краёх. Гаворыцца ў артыкуле таксама і пра партызанаў на Беларусі.

Дзьвінск...

«На белым будынку чыгуначнае станцыі, — піша «Новое Русское Слово», — вялікімі сінімі лацінскімі літарамі напісана — «Даўгаўпільс», а пад гэтым напісана маленькімі расейскімі літарамі — « Двинск». Пятнаццаць год таму быў яшчэ тут трэйці надпіс панямецку — «Дынабург. Кажны жаўнер Вэрмахту, які праяжджаў цераз гэтую станцыю, вельмі добра ведаў, што гэта абазначае. Гэтта канчаўся «тыл» і пачынаўся «фронт». Навет тады, калі перадавыя калёны Вэрмахту былі пад Ленінградам, Масквой, Сталінградам і на самым Эльбрусе, — Дзьвінск заставаўся ўмацаваньнем, акружаным варагамі — балтыцка-беларускімі партызанамі. І цяпер — для савецкіх ваенных і цывільных асобаў, якія едуць з Масквы на захад, Дзьвінск — гэта апошняя «спакойная» станцыя, пасьля якое пачынаецца свайго роду «франтовая» паласа, ахопленая сеткай партызанскіх аддзелаў, якія дзейнічаюць у прыгранічных паўдзённабалтыцкім, **беларускім** і польскім раёнах, — на цэлым працягу паміж Вільняй і возерам Пэйпус. Недар-

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Давайце.

(Янка падсоўвае сябром паперы і яны пачарзе падпісваюць. Закурываюць).

МІКОЛА (ходзячы): Ну, ну! От дык наінжынерыла.

(Чутно стук у дзьверы).

### ЗЬЯВА II

**Тыя-ж, Сьцяпан і Марыля**

ЯНКА (да дзьвярэй): Калі ласка, заходзьце.

СЬЦЯПАН І МАРЫЛЯ (нясьмела ўваходзячы): Добры дзень вам усім.

УСЕ: Добры дзень (вітаюцца).

ЯНКА: Сядайце ў нас, калі ласка.

СЬЦЯПАН: Дзякуем, сядзелі.

МАРЫЛЯ: Сядзелі.

СЬЦЯПАН: Бачу, у вас заусёды занятак ёсьць (садзіцца).

ЯНКА: А, дзякуй Богу, хапае.

СЬЦЯПАН: Што-ж добранькага чуваць?

ЯНКА: А вось старую бяду калоцім, ды й толькі таго. Што-ж у вас?

СЬЦЯПАН (сядаючы): Ох, браточкі-ж вы мае. Бяда, ды яшчэ вунь якая. Проста ня ведаю...

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ (да Марылі): Сядайце, цётачка, калі ласка. Пэўна-ж ня думаеце ўцякаць, каля дзьвярэй стаячы.

МАРЫЛЯ: Ну, прысяду-ж ужо (садзіцца на лаве побач Сьцяпана).

СЬЦЯПАН: Проста ня ведаю дзе дзецца. Ночы ня сплю, гэтак цэлы час думаю. Падумаць, толькі падумаць. Жарцікі, казаў той, трудзіўся, здароўе дабіваў, складаў, нажываў, а тут, казаў той, адкуль і не спадзяваўся, няшчасьце прыйшло. Адкуль ён, казаў той, гэты жулік, басяка кусок, на маю галаву ўзяўся? Чаму ён тады не асьлеп, як першы раз да маей дзяўчыны сьцежкі шукаў!

МАРЫЛЯ (да Сьцяпана): Сьцяпан, ня можна так на чалавека...

СЬЦЯПАН (да Марылі ўсхваляваным голасам): Ты вось разумная, яшчэ бароніш! Няхай ужо дачка, дык тая зусім дурная была. Але ты, на старасьць здурэла. Паможам ды паможам. І жыць мне не давала, усё дачушку ратавала. Вось і даратавалася. Жарцікі, такая дзяўчына вунь. Думаў, чалавек мо добры найдзецца, мне на старасьць дапаможа, ажно дапамог. Жулік той апошні, каб яму на тым сьвеце ня было спакою....

ЯНКА: Спадар Пінкевіч, прабачце, Пінк...

СЬЦЯПАН: Называйце лепш Пінкевіч. Ну іх к чорту гэтых баб зь нейкімі там пінкамі...

ЯНКА: Спадар Пінкевіч, супакойцеся, калі ласка, ня нэрвуйцеся.

СЬЦЯПАН: Ого! Што-ж вы думаеце, мне лёгка? Старому, выпрацаванаму, ды вунь нейкі чужы той чорт нямыты, басяк апошні да торбы чуць не давёў. Жарцікі, падумаць толькі, казаў той. Навет сваім людзям цяпер сорамна ў вочы глянуць. І дзе мая галава была? Каб хаця сваім розумам жыў, ато ўсё гэтым бабам спатураў...

МАРЫЛЯ: Што ты мяне ўсё вінаваціш? А ты дзе быў?

СЬЦЯПАН: Як то, дзе быў?

МАРЫЛЯ: Ну, дзе ты быў, як дачку замуж аддаваў?

СЬЦЯПАН: На цябе-ж пакладаўся...

МАРЫЛЯ: Што ты гарэзьдзіш — на мяне пакладаўся? Як табе ня сорамна перад людзьмі?

СЬЦЯПАН: Мне сорамна? Няхай табе будзе сорамна. Ты-ж яе ў руках трымала, гадавала, навучала. Нябось, і сягоньня навет не хацела сюды ісьці зы мной. — Ідзі — кажа — сам. Пазычуць. Пэўна-ж, можа й пазычуць, але я хачу пачуць, каб ты папрасіла. Свае грошы зяцю то ўмела ўсупоніць!

МАРЫЛЯ: Хто-ж усупоніў, калі ня ты!

СЬЦЯПАН (ускаківаючы, злосна): Як то я? І ты яшчэ асьмельваешся так гаварыць?

МАРЫЛЯ: А ты не даваў?

СЬЦЯПАН: Дык пару разоў памог, але-ж то толькі спачатку. Усяк-жа яшчэ чалавек варажыў... Але ты! Як гэта сталася, што ты за пару гадоў усе аддала?

МАРЫЛЯ: Што з табой гаварыць, толькі людзей сьмяшыш...

СЬЦЯПАН: Я сьмяшу?

МАРЫЛЯ: А хто-ж?

СЬЦЯПАН (падходзячы да Марылі і з пагрозай): Слухай, баба, лепш-бы ты хаця памаўчала, ато мае нэрвы могуць ня вытрымаць, ды так атрымаеш папругай, падамашняму! Во прасі-ж людзей, каб пазычылі, ато апошні той дом могуць забраць. Чаго-ж маўчыш? (Марыля вымае хусьцінку і стараецца выцерці набягаючыя сьлёзы).

ЯНКА: Спадар Пінкевіч, гэта непатрэбна. Прасіць нас ня трэба. Вы ўжо заяву зладжылі і гэтага даволі...

СЬЦЯПАН: Ну дык як-жа ня просячы дастанеш. Вунь хадзіў па банках і па іншых другіх прасіў і не дапрасіўся.

ЯНКА: Мы ня чужыя, мы свае для вас.

СЬЦЯПАН: От гэта дык ты, братка, мусіць праўду сказаў. Што свае то ня чужыя. І як гэта чалавек так раней аб гэтым не падумаў...

ЯНКА: Нам то хаця вельмі прыемна, што вы агледзіліся на сваю памылку ды здабыліся на сьмеласьць прыйсьці да нас...

СЬЦЯПАН: А як-жа...

ЯНКА: ...ато бываюць такія, што хаця й ведаюць, што дурасьць зрабілі, а прызнацца й ня прызнаюцца, дапамогі й не папросяць, хоць-бы там няведама што...

СЬЦЯПАН: Ня так то яно й лёгка гэта, можа й самі ведаеце...

ЯНКА: Чаму-ж не. Але-ж у жыцьці ўсяк прыходзіцца.

СЬЦЯПАН: Браток ты мой, яшчэ й як прыходзіцца.

ЯНКА: Цяпер-жа што да вашай пазычкі. Мы якраз над гэтым тут радзілі і вам пазычку апрабавалі.

СЬЦЯПАН: Гэта значыцца, як прабавалі?

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Згадзіліся даць вам пазычку.

СЬЦЯПАН: Колькі-ж, калі можна ведаць?

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Дзьве тысячы, так як вы прасілі.

СЬЦЯПАН: А браточкі-ж вы мае, няхай-жа вам Бог здароўя прыспорыць. Вялікае-ж вам дзякуй. От мне цяпер цяжар з грудзей, казаў той, зваліцца. Няхай-жа вам Бог за гэта заплаціць.

ЯНКА (падаючы Сьцяпану падпісаную заяву): Калі ласка спадар Пінкевіч, занясіце гэту заяву да нашага скарбніка і ён выпіша вам чэк. Ведаеце нашага скарбніка, (Марыля ўстае).

СЬЦЯПАН: Чаму-ж ня ведаю (бярэ заяву і ўглядаецца ў яе). От дык дзякую, от дык малайцы.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: І ён вам раскажа, як пазычку будзеце сплачываць.

СЬЦЯПАН: Ага, я во пра гэта толькі што й хацеў пытацца, як сплачываць маю. Ну як ён раскажа, дык можа мы й разьвітаемся ўжо...

(Чуваць за дзьвярмі хуткія крокі. Дзьверы раптоўна адчыняюцца і ўбягае Васіль).

### ЗЬЯВА III

**Тыя-ж і Васіль**

Васіль спыняецца і моўчкі стаіць каля дзьвярэй. Ён апрануты ў спартовую кашулю, на якой сьпераду й ззаду выбіта

# Крыху аб гісторыі

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

няецца й ўвесь час зноў цікуе за Ноўгарадам, а навет і за Смаленскам, на які робіць набег зімою 1078 году. Паход на Смаленск быў, здаецца, апошнім выступам Усяслава супраць кіеўскіх князёў. з гэтага часу ён жыве ў згодзе зь Кіевам, сьціраваўшы, як відаць, усю сваю ўвагу на Прыбалтыку й далёкія заходнія беларускія землі.

Вайна зь Кіевам распачынаецца зноў пасьля сьмерці Ўсяслава (1101). Прычынай яе былі набегі Менскага князя Глеба, аднаго з сыноў Усяслава, у межы падуладнага Кіеву Тураўскага княства. У 1115 годзе злучаныя сілы некалькіх кіеўскіх князёў начале з Уладзімерам Манамахам нападаюць на Полацкае княства, цяпер раздробленага на ўдзельныя княствы у якіх сядзяць дзеці Ўсяслава. Яны здабываюць Воршу, Капысь і Друцк і абкладаюць таксама Менск. Аднак даходзіць да пагадненьня з Глебам і кіеўскі вялікі князь Уладзімер выходзіць зь межаў Полацкага княства. У міжчасе Глеб парушае ўмову і ў 1116 годзе адбываецца другі паход Уладзімера Манамаха на Менск. Гэтым разам Менск руйнуецца, князь Глеб трапляе ў палон і адводзіцца ў Кіеў, дзе ён хутка й паміраe ў цямніцы. Аднак ужо з 1118 году другі менскі князь трывожыць кіеўскія ўладаньні. Гэта здэцыдоўвае вялікага кіеўскага князя Мсьціслава зрабіць апошні й найбольшы паход злучаных сілаў падуладных яму князёў супраць Усяславічаў. Наступ распачынаецца летам 1127 году і вядзецца адначасна зь Кіева, Турава, Клецка, Курску, Смаленску й Ноўгараду. Змаганьне зацягваецца да 1129 году, якое заканчваецца перамогай Мсьціслава над Усяславічамі. Забраныя ў палон Усяславічы з жонкамі й дзецьмі прадаюцца ў няволю ў Канстантынопалі. Некаторыя зь іх скрываюцца ў лясы. Полацкая зямля раздаецца ўдзельнікам гэтага паходу. У самым Полацку быў пасаджаны сын Мсьціслава Ізяслаў. Па сьмерці бацькі вясной 1132 году гэты накіроўваецца ў Кіеў, пакідаючы ў Полацку свайго брата Сьвятаполка. Палачане выкарыстоўваюць гэты мамэнт і падымаюць паўстаньне. Яны выганяюць з Полацку Сьвятаполка, запрашаючы на княжаньне Васільку, сына Рогвалада Ўсяславіча. Па некаторым часе Васілька адваёўвае ўсяму Полацкаму вялікаму княству ранейшую незалежнасьць.

Здарэньнямі 1127-1132 гадоў быў пакладзены канец цыклю войнаў Полацкага княства з Кіеўскім княствам. З гэтага часу кіеўскія вялікія князі больш ня ўмешваюцца ў жыцьцё Полацкага княства. На арэну суадносінаў з Полацкім княствам узыходзяць цяпер Вялікі Ноўгарад і Смаленскае княства. Кіеўская-ж Русь патрасаецца міжусобнымі войнамі і адыходам раней залежных ад яе ўдзельных княстваў.

Як бачым, гісторыя ўсходніх славянаў X-XII стагодзьдзяў ня вельмі лёгка паддаецца абагульненьню. Прыклад Полацкага княства перакрыжоўвае ўсялякія канцэпцыі аб адзіным і неразрыўным працэсе гістарычнага разьвіцьця ўсходніх славянаў таго часу. Можна было-б сказаць, што гэты прыклад Полацкага княства зьяўляецца найяскравейшым прыкладам тагачасных феадальных адносінаў, прыкладам гаспадарства ў гаспадарстве, і частыя сутычкі між Полацкім княствам і Кіевам былі ні чым іншым, як толькі ўспакайваючымі паходамі галоўнага гаспадара. Аднак гэта ўжо адмаўляецца самым характарам гэтых паходаў, якія ўзапраўднасьці набіраюць характар войнаў між незалежнымі гаспадарствамі. З Полацкім княствам ваюе не адзін Кіеў і ягоны вялікі князь, але цэлы камплекс Кіеўскай Русі, а разам падуладныя кіеўскаму вялікаму князю ўдзельныя князі й землі. Адмаўляецца гэтая канцэпцыя чыстых феадальных адносінаў захоўваньнем і абаронай полацкімі князямі традыцыяў сваe апрычонасьці й апрычонасьці Полацкага княства. Папершае яны ня плацяць ніякіх грашовых падаткаў Кіеву, як гэта плаціў Ноўгарад да самага ўпадку Кіева, ці хоць-бы рабіў Смаленск да часу свайго ўнезалежненьня. Яны таксама вядуць незалежніцкую палітыку, абараняючы толькі інтарэсы Полацкага княства, ды нарэшце напрацягу стагодзьдзяў моцна захоўваюць і трымаюцца сваіх дынастычных традыцыяў. Як у самым Полацку, так і ўва ўсіх удзельных княствах Полаччыны сядзяць толькі Ўсяславічы, ці як яшчэ іх называлі — Гарыславічы (ад другога імя княжны Рагнеды), або проста Рогваладавічы. Трэба тут згадзіцца з асьветчаньнем акадэміка Пічэта, які сьцьвярджаў, што Полацкае княства сваёй незалежніцкай палітыкай спрычынілася да канчатковага раздробленьня Кіеўскай Русі й адыходу ад яе раней залежных земляў. Яно запраўды спрычынілася да адасабленьня Смаленскага, Турава-Пінскага і ў пэўнай долі Ноўгарад-Северскага княстваў. Гэтыя княствы, асабліва Смаленскае, ужо з XII стагодзьдзя пачынаюць больш хіліцца да Полацку, выходзячы з-пад апекі зацікаўленьняў Кіева. Гэты нарастаючы працэс збліжэньня вызваліць беларускія землі ад татарскіх заваёваў першай паловы XIII стагодзьдзя.

Было-б тут на месцы паставіць пытаньне пра час злажэньня беларускай народнасьці X-XII стагодзьдзяў, савецкія гісторыкі адносяць запачаткаваньне ўтварэньня трох народнасьцяў — беларускай, расейскай і ўкраінскай—да XIII стагодзьдзя, г. зн. да часоў распадзелу «аднае рускае» народнасьці татарскімі й «літоўскімі» заваяваньнямі. Калі гэтая канцэпцыя больш-менш адпавядае злажэньню расейскае народнасьці, яна аднак не дастаткова выясьняе ўтварэньне беларускай і ўкраінскай народнасьцяў, пры ўмове,што яны, дапусьцім да паловы XIII стагодзьдзя, складалі адну непадзельную народнасьць. Злучэньне ўсіх беларускіх земляў у вадным сцэнтралізованым гаспадарстве Вялікім Княстве Літоускім наступіла толькі ў першай палове XIV стагодзьдзя. У другой палове гэтага-ж стагодзьдзя да ВКЛ былі прылучаныя таксама і ўсе украінскія землі. Такім чынам Беларусы і Ўкраінцы пражылі адасобленым жыцьцём толькі каля аднаго стагодзьдзя, г. зн. ад часу заваяваньня Кіеўшчыны Татарамі у 40-х гадах XIII стагодзьдзя да 60-х гадоў XIV стагодзьдзя, калі Кіеўшчына была прылучана да ВКЛ. Пасьля зноў наступілі стагодзьдзі супольнага гаспадарствавага й культурнага жыцьця ў ВКЛ. Аднаго стагодзьдзя адасобленага жыцьця і пры гэтым у няспрыяльных умовах народнага разьвіцьця — пад «літоўскім» і татарскім прыгнечаньнем — не дастаткова, каб адна народнасьць разьдзялілася на дзьве непазнавальныя часткі. З другога боку запачаткаванае разьдзяленьне гэтага стагодзьдзя мела ўсе падставы зацерціся ў стагодзьдзях супольнага жыцьця ў Вялікім Княстве Літоўскім. Гэтага аднак ня сталася. Наадварот працэс адасабленьня ўсё больш пашыраўся. Гэта азначае, што працэс злажэньня беларускай і ўкраінскай народнасьцяў пачаўся раней за XIII і XIV стагодзьдзі. Ён пачаўся на ранку злажэньня гаспадарсвавых злучэньняў з блізкіх плямёнаў. У гэтым выпадку ў раньніх Кіеўскім і Полацкім княствах і прылеглых да іх землях. Ужо ў XI-XII стагодзьдзях гэты працэс злажэньня беларускай і ўкраінскай народнасьцяў быў даволі пашыраны, аб чым сьветчаць гаспадарствавы антаганізм і мясцовы патрыятызм, што адлюстраваўся ў Полацкім княстве ў няпрымірымасьці да чужой дынастыі князёў, ды наагул да чужога панаваньня. XIII і XIV стагодзьдзі былі стагодзьдзямі завяршальнага этапу злажэньня беларускае народнасьці.

(Працяг будзе)

П. Залужны.

---

## «Новое Русское Слово» пра партызанаў на Беларусі

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

ма-ж усе цягнікі, якія ідуць з Дзьвінску на захад і паўдзённы захад, суправодзяцца ваеннай аховай. Сярод партызан, як сьцьвярджаюць і ворганы савецкае дзяржаўнае бясьпекі, ёсьць людзі, якія яшчэ ў часе нямецкае акупацыі хаваліся па лясох і непраходных балотах гэтае мясцовасьці, якія ўвесну і ўлетку 1945 году вярнуліся былі дахаты, але пасьля, прыгледзеўшыся да новых адносін і ўмоваў жыцьця пад савецкай уладай, пайшлі назад у паўзмрокі партызанскага падпольля.

Антыкамуністычныя партызаны сваімі дывэрсіямі і нясупыннымі выступленьнямі трымаюць у страху мясцовыя ўлады, ствараюць ці мала цяжкасьцяў савецкай ваеннай камунікацыі, паказваючы цэламу сьвету, што ў савецкай імпэрыі ёсьць актыўны і арганізаваны рух супраціву.»

---

# Зямельная сыстэма ў Беларусі ўчора, сяньня й заўтра

Зямельнае пытаньне ў Беларусі — гэта пытаньне, якое павінна йсьці заразжа пасьля справы здабыцьця палітычнае незалежнасьці. Бо калі наступіць той дзень, у чым мы перакананыя, калі край станецца вольным, адразу-ж вырасьце перад будучым урадам вольнай Беларусі пытаньне распадзелу зямлі. Ня трэба шмат спыняцца над доказамі што бальшавіцкія калгасы разваляцца колькі дзён, а мо нат і колькі гадзін пасьля таго, як адыдзе збройны КГБ-істы з ваколіцы. Мы бачылі ўжо гэта ў 1941 годзе. На месца разваленых калгасаў трэба будзе паставіць нешта іншае і то хутка й спраўна. Не пара будзе над гэтым спрачацца ў ваблiччы факту. Трэба справу разважыць загадзя ды хоць прыблізна распрацаваць вобраз тае сыстэмы, якая была-б найбольш прыдатнай для Беларусі. Асабліва добра было-б гэта зрабіць за мяжой Беларусі, дзе прадстаўнікі нашага народу мелі магчымасьць асабіста пазнаёміцца з гэтым пытаньнем у розных краёх сьвету і якія змаглі-б некаторыя добрыя дасягненьні, бачаныя тут на чужыне, датарнаваць беспасярэдня, або крыху мадыфікуючы, да нашых беларускіх умоваў.

Аўтар гэтых радкоў быў-бы вельмі шчасьлівы, каб яны выклікалі ў шырокіх колах беларускае эміграцыі зацікаўленьне й рэакцыю хоць-бы гэтага маштабу, як гэта зрабіў артыкул аб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Нажаль, дагэтуль справе земляўпарадкаваньня на Беларусі пасьля калгаснай сыстэмы ў нас ня прысьвячаецца навет мінімум зацікаўленьня, калі ня лічыць крытычных заўвагаў у дачыненьні публікаваных у краёвых газэтах «дасягненьняў» савецкага земляробства, або падхопліваньня «самакрытыкі» гэтых-жа газэтаў пад яго адрасам.

У гутарках з чужынцамі мы часта наракаем на калгасны прыгон і заняпад у сувязі з гэтым земляробства ў нашай бацькаўчыне, але запытаныя, што мы думаем паставіць на зьмену гэтай сыстэме, ня шмат хто з нашых эмігрантаў змог-бы даць ясны й абдуманы адказ.

Аўтар просіць чытачоў ня лічыць гэты артыкул нечым канчаткова распрацаваным і прапанаваным да прыняцьця. Гэта папросту нізка думак і асабістых паглядаў чалавека, якога закранутае пытаньне цікавіць ад даўна і над якім прыходзілася няраз задумоўвацца.

Ведама кажнаму, што дарэвалюцыйная сыстэма карыстаньня зямлёй на Беларусі была вельмі застарэлай ды нявыгаднай перадусім з гледзішча аграрнага. Шнуравая сыстэма ў рамах вялікіх ці сярэдніх сёлаў, дзе паасобныя шнуры былі параськіданыя дзясяткамі на вельмі значнай адлегласьці ад сялібаў, спрычынялася да таго, што толькі бліжэйшыя шнуры скарыстоўваліся сяк-так, а далейшыя ніколі не гараліся ды зарасталі дзірванамі, а калі не, дык засяваліся сыстэмай трохпалёўкі ў парадку: папар, другі год — жыта, а пасьля грэчка. Толькі на бліжэйшых да сядзібаў землях пладазьмены былі больш рознастайныя. Гэтакі стан рэчаў пакідаў без апрацоўкі значную колькасьць здатных да гэтага але занядбаных земляў. Да гэтага частыя патравы збожжа, а асабліва пасяўных траваў жывёлай суседзяў спрычынялі значныя шкоды і ў так ужо скупых ураджаях ды і нязгоды між паасобнымі гаспадарамі. Вялікія й згушчаныя вёскі часта былі ахвярамі пажараў. Нічога дзіўнага, што валадары Беларусі былі змушаныя шукаць выхаду.

Першым заняўся гэтай праблемай яшчэ царскі міністар Сталыпін. Ён прыняў сыстэму перасяленьня вёсак на хутары. Сыстэма ў прынцыпе добрая, аднак была праведзена ў скромных памерах ды хаатычна. Гэтую-ж сыстэму адаптавала пасьля польская зямельная рэформа. Тут памеры хутарызацыі былі даволі шырокія, але яна таксама праводзілася хаатычна, як і першая, ды пасьля яе гаспадары, як і раней у вёсках, засталіся малазямельнымі, бо польскі ўрад ня думаў распарцэляваць абшарніцкія землі, каб ня зьменшыць польскага «стану пасяданя» на акупаванай тэрыторыі, дзе, як ведама, толькі абшарнікі й прадстаўлялі польскасьць, калі ня лічыць насланых асаднікаў і ўрадаўцаў. Трэба аднак сказаць, што пасьля хутарызацыі, як у першым выпадку, так і ў другім, сяляне значна пабагацелі.

У гэтым-жа часе ўва Ўсходняй Беларусі праводзілася г. зв. Прышчэпаўская рэформа, якая атрымала свой назоў ад тагачаснага камісара земляробства БССР Прышчэпава. Рэформа гэтая ліквідавала дасюлешнія сёлы й вёскі ды тварыла пасёлкі; гэта невялікія вёсачкі па дзесяць гаспадароў зь зямлёю паблізу, аднак не навокал хутара. Гэта быў кампраміс паміж сялом і хутарам; кампраміс — таму што камуністыя супраціўляліся расьсяляньню вёсак, а сяляне былі больш прыхільныя да хутароў. Думаю, што гэтая сыстэма была таксама далёка не дасканалай, бо пазбаўляла селяніна выгадаў вясковага жыцьця, а не давала ў замену выгадаў поўнай хутарскай незалежнасьці. Урэшце цяжка казаць штось канкрэтнае аб сыстэме, якая была хутка ліквідаваная бальшавікамі разам зь ейным аўтарам Прышчэпавам.

Урэшце апошнім і як-бы завяршальным пунктам «земляўпарадкаваньня», які давёў сялянства да стану нявольнікаў, гэта сыстэма сталінскіх, а пасьля ўзбуйненых хрушчоўскіх калгасаў. Сыстэма гэта была твораная бязь ніякай думкі аб селяніне, а толькі аб тым, якбы расьцягнуць дзяржаўную кантролю над сельскагаспадарчай прадукцыяй. Калгасная сыстэма зьнішчыла ўсялякую ініцыятыву, асьпірацыі чалавека ды ўвяла ў краіне паншчыну, гэтым разам дзяржаўную. Зразумела, гэтая сыстэма поўнасьцяй скампрамітавалася й здольная ўтрымацца толькі так доўга, як доўга ўтрымаецца савецкая ўлада.

На падставе асабістага знаёмства зь сельскімі праблемамі ў Беларусі, з псы-

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

---

вялізарная галава Элвіса Прыслі[41]) з надпісам пад нізом. Порткі з вузенькімі калошамі. Жуе гуму й разглядаецца.

СЬЦЯПАН (прыбліжаючыся да яго): А гэта што такое? Чаго ты ўбег і стаіш як той асёл? Што трэба сказаць?

ВАСІЛЬ (із дурной усьмешкай да ўсіх): — Гай![42]).

СЬЦЯПАН: Што гэта значa — гай? Ты палюдзку забыўся гаварыць, ці што?

ВАСІЛЬ (зьбянтэжыўшыся): Добры вечар.

СЬЦЯПАН (ходзячы і абглядаючы навокал сына): Вось так, добры вечар трэба казаць. А гэта што ў цябе тут на кашулі? Адкуль ты яе ўзяў?

ВАСІЛЬ (нясьмела): Гэта Элвіс...

СЬЦЯПАН (грозна): Хто? (Прысутныя ўсьміхаюцца).

ВАСІЛЬ: Элвіс Прыслі...

СЬЦЯПАН: Які бэлбіс? Што за бэлбіс?

ВАСІЛЬ: Элвіс Прыслі, сьпявак...

СЬЦЯПАН: Сьпявак? Дык што калі сьпявак, ты маеш яго ззаду й сьпераду валачыць? Няхай сам ходзіць. (Сувора, паказваючы пальцам на падлогу). Ськідай зараз кашулю разам із гэтай брыдотай! Зараз-жа ськідай! (Васіль пaглядае із запытаньнем на матку. Тая прыбліжаецца да яго і становіцца побач, быццам для абароны).

МАРЫЛЯ: Сьцяпан, перастань! Што ты ўжо на хлапца дарэмна нападаеш?

СЬЦЯПАН: Як то дарэмна? Паглядзі, на якога чорта ён цяпер падобны, гэтай брыдотай абчапіўся? Кажу яшчэ раз, ськідай кашулю!

МАРЫЛЯ: Сьцяпан, перастань!

СЬЦЯПАН (да Марылі): А ты што, яшчэ мяне будзеш вучыць? Не, больш ня ўдасца. Ты ўжо дачку наўчыла, а я за сына сам вазьмуся. Можа хаця ён чалавекам будзе. (Да Васіля): Але я табе, сынок, з галавы павыганяю гэтых бэлбісаў тваіх нейкіх... Дзе ты быў? (Васіль маўчыць). — Чуеш, я пытаюся, дзе ты быў?

ВАСІЛЬ: На пікніку.

СЬЦЯПАН: На пікніку? А хто табе дазволіў ісьці на пікнік? Чаму ты мяне не запытаўся, ці можна?

ВАСІЛЬ: Я маму пытаўся.

СЬЦЯПАН: Ізноў маму. Слухай, сынок, ад цяперашняга часу будзеш пытацца мяне і толькі мяне. Разумееш?

ВАСІЛЬ: Так.

СЬЦЯПАН: Ну вось, глядзі, каб і рабіў так. А на якім ты пікніку быў?

ВАСІЛЬ: Санбім брэд[44]) рабіў пікнік.

СЬЦЯПАН: Хто?

ВАСІЛЬ: Санбім брэд..., як гэта сказаць... ага, тая кóмпані[45]), што хлеб пячэ...

СЬЦЯПАН: Дык табе ўдома хлеба мала, ці што?

ВАСІЛЬ: Дык я-ж не хадзіў, каб дастаць хлеба, але там усе бойсы[46]) хадзілі і там давалі многа фры папсікі[47]), кэнды[48]), айскрымы і ўсяго многа...

СЬЦЯПАН: І гэту кашулю з гэтым чортам таксама далі там?

ВАСІЛЬ: Зь якім чортам?

СЬЦЯПАН: Ну як яго, з гэтым бэлбісам?

ВАСІЛЬ: Так.

СЬЦЯПАН: А нашто ты браў? Сваей ня маеш?

ВАСІЛЬ: Дык усе-ж бралі.

СЬЦЯПАН: От табе й на. (Убок). Значыцца як усе, дык гэта й добра. (Да Васіля). Як толькі вернешся дамоў, глядзі каб сьцінуў гэту кашулю і каб я яе больш ня бачыў! (Да Янкі). Скажы мне, калі ласка, браток, ці тут свая школа ў вас ёсьць?

ЯНКА: Ёсьць, чаму-ж не.

СЬЦЯПАН: А што там вучаць?

ЯНКА: Закону Божага, чытаць, пісаць пабеларуску.

СЬЦЯПАН: Вось добра. (Да Васіля). Помні, што будзеш прыходзіць сюды ў школу.

ВАСІЛЬ: Добра.

МАРЫЛЯ (да Васіля): А чаго-ж ты, сынок, сюды прыбег?

ВАСІЛЬ: Таня мяне прыслала. Яна казала, што вы тут.

СЬЦЯПАН: Як то Таня цябе прыслала?

МАРЫЛЯ: А дзе-ж ты бачыў Таню?

ВАСІЛЬ: У нашу хату прыбегла, заплакаўшыся.

МАРЫЛЯ: І што такое?

ВАСІЛЬ: Кажа, паліцыя прышла да яе і сказала, што Джоў недзе паехаў карай і меў цяжкі эксыдэнт[49])... прасіла, каб вы найскарэй прышлі...

МАРЫЛЯ: Дзе, які аксідзент?

ВАСІЛЬ: Разьбіў сваю кару. Казала, што сам моцна сябе пакалечыў, як ей паліцыя казала, і забралі ў шпіталь. Мусіць невядома ці выжыве.

МАРЫЛЯ (зь перапалохам): А Божа-ж мой, а дачушка-ж мая бедненькая. Скарэй бяжым.

СЬЦЯПАН: Куды бяжым?

МАРЫЛЯ: Дык куды-ж, дамоў, ды ў шпіталь.

СЬЦЯПАН: Не дачакаецца ён, пакуль я да яго ў шпіталь пабягу.

МАРЫЛЯ: Ня будзь ты ўжо гэткі хаця.

СЬЦЯПАН (да Ўправы Касы): Ну добра, браточкі, можа другім разам будзе больш часу.

ЯНКА: Калі ласка, заходзьце.

СЬЦЯПАН: Абавязкава зайдзем, а сына прышлю ў школу.

ЯНКА: Вельмі добра зробіце.

СЬЦЯПАН: То бывайце здаровенькі.

УСЕ: Бывайце. (Сьцяпан разьвітваецца з мужчынамі і пасьля разам з жонкай і сынам кіруецца да дзьвярэй).

СЬЦЯПАН (на адыходзе):... і вельмі дзякую за пазычку.

СЯБРА ЎПРАВЫ КАСЫ: Карыстайцеся і няхай вам Бог памагае) (выходзяць).

### ЗЬЯВА IV

**Янка, Мікола, Сябра Ўправы Касы**

(Устаюць і закурываюць. Хвіліна маўчаньня)

МІКОЛА: Ну вот вам. Выглядае, што блудны сын вярнуўся.

ЯНКА (пасьля некаторага перапынку): Так, гэты вярнуўся. Колькі яго каштавала гэта, але асьмеліўся, вярнуўся. А колькі-ж ёсьць такіх, што і мусілі-б навучыцца і таксама як ён навучыліся, а вярнуцца й ня вернуцца. І ўсё за што? За грошы. Грошы гэта іхны рухавік, іхнае жыцьцё, іхная мэта.

Божа ты мой, Божа! Як цяжка! І як-жа цяжка пакутуе ды колькі яшчэ будзе пакутаваць наша гаротная дарагая бацькаўшчына!

**Заслона**

КАНЕЦ

**Таронта, сакавік 1957 г.**

### УВАЗЕ РЭЖЫСЭРАЎ

У выпадку, калі слухачы не разумеюць ангельскае мовы, усе ангельскія макаранізмы ў п'есе можна замяніць беларускімі адпаведнікамі, дзеля чаго й падаюцца тут тлумачэньні.

[1]) Bubble gum гума да жаваньня, зь якой надзімаюцца пузыры.
[2]) Come in — заходзьце.
[3]) Good day everybody — добры дзень усім (кажнаму).
[4]) Nice girl — прыгожая дзяўчына.
[5]) Well — добра.
[6]) How do you do — як маецеся.
[7]) Experience — дасьветчаньне, практыка.
[8]) Very good — вельмі добра.
[9]) How much money — Колькі грошы, як многа грошы.
[10]) Icecream — марожанае.
[11]) Date — спатканьне.

**Мікола Хведаровіч**

* * *

Усё, аб чым нам марыцца,
Збываецца ў жыцьці.
Жыцьцё пражыць й ня старыцца —
Ня рэчку перайсьці.

Ня далямі туманнымі
Шляхі мае ляглі —
Марамі, акіянамі
У шторм на караблі.

Бурлівае, шалёнае
Паспрабаваў тады
Той самае салёнае,
Жыцьцёвае вады.

Праз хвалі каламутныя
Я сьмела перайшоў
Туды, дзе песьні чутныя
Маіх таварышоў,

Дзе я на варце выстаяў
У гэты ледалом,
А бераг дальняй прыстані —
Цяпер мой сталы дом.

Вясною прамяністаю,
Сярод сваіх сяброў,
Стаю з душою чыстаю
І — зноў у пуць гатоў.

І сталасьць не падладзіла
Рахункі падвясьці,
Пагалаве маей ня гладзіла
Яна мяне ў жыцьці.

Суровая і роўная,
Празрыстаю была
Дарога мая, поўная
І смутку, і сьвятла.

**Піліп Пестрак**

### БОМЫ

Яны ішлі дарогаю знаёмай
З лазовымі кашамі на руках
І за сабой губілі ранкавыя бомы
Па сьцежках, каляінах, па кустах.

Там, дзе над Нарачу пры беразе крыніцы
Гарэць у полымі наплыўшае зары,
Ўмываліся пяшчотна маладзіцы,
Стрымаліся пры цішы гаварыць.

І зноў — дарожкі росна-пескавыя
Іх павялі да баравых гадоў,
І зазьвінелі бомы залатыя,
Як нашых даўніх матак маладосьць.

Іх бор вітаў, прымаў у свае сховы —
І ціш сасонная, і неба, і гады, —
Знаёмы, вечна таямніча-новы,
Бор песенны, бор вечна малады!

### ДАРОЖКА

Адплывалі ціха хвалі,
Адплывалі
І вячэрнюю задуму
Навявалі.

Грэў агонь душу ласкава
На ўзьбярэжжы,
І гукала яго Нарач
У бязьмежжы.

Прыплывалі, адплывалі
Ціха ўсплёскі,
Слухаў ён, як засыналі
Вокал вёскі.

Думка думку наганяла —
Ўсё пра тое,
Дзе пасеяна насеньне
Залатое.

І якія яно ў сэрцах
Дало ўсходы,
Які колас вырас людзям
Для свабоды.

Ён сядзеў ля хваль бязьмежных,
Хваль прарочых,
Вечар думай прыгаруньваў
Яму вочы.

І ад сэрца ўдаль плыло
Залатаруньне
Пра ласкавую зямельку
Прыгажуню.

А ўжо месяц, крадучыся,
У сутоньні
Пракладаў яму дарожку
У бяздоньне.

І прыйшла яна — хвіліна —
Доля тая —
Павяла яго дарожка
Залатая...

**Сьцяпан Гаўрусёў**

### ВЯСЕЛЬЛЕ

Нізка пад ветрам гнуцца жыты,
Гнуцца жыты.
Шлях брукаваны б'юць капыты,
Б'юць капыты.

Хлопцу трывогі нельга суняць,
Нельга суняць:
Едзе вясельле — бомы зьвіняць
Бомы зьвіняць.

Шырыцца воблака, бліжай ідзе,
Бліжай ідзе.
Мост пад калёсамі бубнам гудзе,
Бубнам гудзе.

Міг — і віхор (гэтак блізка да сьлёз,
Блізка да сьлёз),
Любую дзеўчыну міма пранёс,
Міма пранёс.

Сьвет пацямнеў — пылам твар абдало,
Твар абдало,
Быццам за воблака сонца зайшло,
Сонца зайшло.

Болем у сэрцы, дзе сум не прайшоў,
Сум не прайшоў,
Ўсё аддаецца стук капытоў,
Стук капытоў.

**Юрась Сьвірко**

### ПАСЬЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Я раніцою адчыніў акно,
Каб паглядзець, што творыцца на нівах:
Пярун страляў над хатай усю ноч,
І па страсе хлястаў халодны лівень.

Ды толькі вецер расчасаў гальлё,
І зашумелі між сабой бярозы,
Падняўся на узьмежку васілёк
І радасна ўсьміхаецца праз сьлёзы.

### КУПАЛЬЛЕ

За вёскай, ля жыта,
Агні запалалі.
— Што гэта, скажэце?
— Сягоньня-ж Купальле.

У гэтае сьвята
Ля вогнішчаў цесна.
Сьпяваюць дзяўчаты
Купальскія песьні.

Калі — невядома —
Заснулі курганы,
Нібыта шаломы
Зьнялі вяліканы.

Ніхто ня трывожыць
Іх сны векавыя.
Хапае зь іх кажны
Падзеі былыя.

І песьня павольна
Расла і ўсплывала,
Здаецца, што полем
Сьпяшае Купала.

І тут на палянках,
Дзе ноч нібы сажа,
Аб гэтых курганах
Ён, можа, раскажа.

**Уладзімер Нядзьведзкі**

### МАЛАНКА

Раскалолася хмара,
Як ільдзіна, на часткі,
Нібы хтосьці ударыў
Па ёй пугай блішчастай.

І ад пугі-палоскі —
Навальнічнай маланкі —
Паплылі адгалоскі
Грому ў розных напрамках.

І цяпер я шкадую,
Як пачую гром першы,
Што ня ўзяў пугу тую
Замест рыфмы для верша.

### ВІШНЯ

Вецер увішны
Дзьме бязупынку,
Злосна на вішню
Сыпле сьняжынкі.

Вішня-ж на вецьце
Іх апранае,
Нібы суквецьці
Белыя ў маі.

# „Белыя плямы" ў гісторыі беларускае літаратуры

Было-б куды праўдзівей гаварыць ня «белыя плямы» ў гісторыі беларускай літаратуры, а «крывавыя». Але якраз гэтага і ня мог сказаць паэта Пятрусь Броўка у сваім дакладзе на 3-ім Пленуме Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі. Як старшыня гэтага Саюзу, як савецкі пісьменьнік, Броўка, вядома, ня мог назваць рэчы сваім імем. Праўда для апалягэты «сацыялістычнага рэалізму» не па натуры, дый сам гэты «сацыялістычны рэалізм» ад аднаго толькі сутыку з праўдай страціў-бы ўсю сваю ўзвышаную «прывабнасьць». Таму Пятрусь Броўка адсутнасьць у гісторыі беларускай літаратуры цэлага шэрагу паэтаў і пісьменьнікаў, закрэсьленых у свой час крывавай рукой НКВД, сарамліва называе «белымі плямамі», як быццам і сапраўды мы маем тут дачыненьне толькі із звычайнай нявіннай цэнзурай. І толькі гаворачы аб недахопах «Нарысу па гісторыі беларускай літаратуры», Броўка зьлёгку падыходзіць да таго, што на самай справе хаваецца за «белымі плямамі», зноў-такі не называючы гэтага жудаснага факту праўдзівым імем. Ён зазначае: «Ёсьць прычыны, якія залежаць ад аўтараў «Нарысаў», а ёсьць і незалежныя ад іх». Што-ж трэба разумець пад гэтымі «незалежнымі прычынамі»? Адказ зусім ясны — няспынную разбуральную дзейнасьць ворганаў НКВД у беларускай літаратуры, у выніку якой былі ліквідаваныя самыя носьбіты гэтай літаратуры — паэты і пісьменьнікі. Вось гэта і ёсьць запраўднае паходжаньне «белых плямаў» у гісторыі беларускай літаратуры, і старшыня Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР, паэта Пятрусь Броўка дарэмна намагаецца замаскаваць гэтым фігуральным выразам бязьлітасную расправу з выдатнымі творцамі беларускай літаратуры. Вось чаму Броўкавы словы «ясная справа, што ў гісторыі беларускай літаратуры было многа «белых плям», гучаць для нас цынічна і зьдзекліва. «Белыя плямы» характарызуюць ня толькі гісторыю беларускай літаратуры — гэтыя «белыя плямы», ці на мове госбезопасності — із'ятія — вызначылі лёс усяго беларускага народу. «Белыя плямы» ўсюды, куды ня кінь. Пятрусь Броўка сам, на сваім шляху ад старшыні сельсавету да старшыні Саюзу пісьменьнікаў вольна ці нявольна памнажаў іх. А колькі такіх кіраўнікоў зазнала нашая літаратура! Цяжка было-б пералічыць іх усіх — пачынаючы ад сакратара камуністычнай партыі, ад розных палітрукоў і культпропаў, і канчаючы НКВД, як канчальным «экспэртам». Гэта яны, усе гэтыя і іншыя апякуны, устанавілі кантроль над творчым духам пісьменьніка. Недарма калісьці Тодар Кляшчорны, які пазьней стаўся таксама «белай плямай», пісаў: «Ходзім мы пад месяцам высокім, а яшчэ — пад ГПУ.» Дзякуючы гэтаму «апякунству» над беларускай літаратурай, яна не магла і ня можа зрабіць ніводнага самастойнага кроку. Аб свабодзе творчасьці, як свабодзе наагул, толькі гавораць і пішуць, пішуць і гавораць якраз таму, што гэтай свабоды няма. Сацыялістычны рэалізм — гэта догма, а ўсялякая догма, як вядома, выключае паняцьце свабоды. Той зь беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, хто, наўсуперак апякунству і догмам, усё-ткі паставіў самастойны крок, быў крывава зьліквідаваны, і па ім засталася толькі... «белая пляма». Гэта яны, «белыя плямы», ажываюць у нашай памяці, як прывіды, і з таго сьвету — нерэгабілітаваныя, засыпаныя зямлёй — крычаць да нас вуснамі замучанага Ізі Харыка:

Мы з цэглы мур збудоўвалі тады,
саміх сябе цаглінамі мы клалі.
На крыльлях мар у гэтыя гады
ляцелі мы ў завоблачныя далі.

Мы з пылам разбурэньня на руках
замешвалі для будучыні гліну.
І нам было прызначана ў вяках
з пакутнай песьняю зямлю пакінуць.

Таму, з другога боку, «белыя плямы» для нас — гэта сумленьне нашага народу, гэта сьвятыя плямы: спад іх паўстаюць, як волаты духу, нашыя ахвяры, якія мы паклалі на аўтар вызваленьня, і натхнёна заклікаюць нас ісьці наперад:

Штурмуйце будучыні аванпосты,
Трымайце курс на Сонечнае Заўтра!

**М. Сяднёў**

### ВЯСЕНЬНЯЕ

На галінках дубоў,
На аголеных ліпах,
На пупышках-вачох —
І чаканьне і роздум.
Да тугіх правадоў
Зранку ластаўкі ліпнуць,
Каб у родных краёх
Заказаць сабе гнёзды.

**Анатоль Вялюгін**

* * *

Белазорае «бабіна» лета
у гародчыку расьцьвіло.
Пчолы, ўпіўшыся ў зрэнкі кветак,
зноў адчулі вясны цяпло.

Ля шпакоўніцы на арабіне,
звонка славячы родны дом,
шпак,
сярэбраны ад павуціньня,
як вясной,
трапеча крылом.

Ён ня ведае, апантаны,
што нясуць маразы ўначы
зь Ледавітага акіяну
да асьвейскіх вазёр ключы.
Як-жа сівер замкне азёры,
распране густалісты лес?
Паглядзі:
запаліць свае зоры
зноў наважыўся белы бэз.

Золкай ноччу духмянае вецьце
Грукне ў шыбу — харошы госьць!

...так жыве ў пасівелым леце
вёсен вогненных маладосьць.

---

У канцу X і на пачатку адзінаццатага стагодзьдзяў было колькі асобных беларускіх гаспадарстваў. Найбольшае значэньне мела княства Полацкае. Яно займала прастору ля Дзьвіны, Бярэзіны ды ля вышняга й сярэдняга Нёмна зь Вяльлёю. Полаччына была незалежнай. У вадзінаццатым стагодзьдзю Полаччына «перажыла пару палітычнага й эканамічнага красаваньня. Полацак і сваёй старавечнасьцяй і гандлёвым значэньнем мог супарстваваць зь Кіевам. Ягоныя вялікія гандлёвыя зьвязкі прасьцягаліся далёка на поўнач і заносілі ягонае імя нат у скандынаўскія сагі»[12]).

Але гаспадарства Пскоўскае з прастораю ўздоўж р. Вялікай да Пскоўскага й Чудзкага азёраў было ў залежнасьці ад Ноўгараду. Гаспадаром у Пскове быў князь Судзіслаў. Прастору ўздоўж р. Дзясны, левае прытокі Дняпра і Дзясьнянскіх прытокаў займала беларускае плямя Севяране. Іхнае княства было таксама незалежнае. Севяране, апрача таго, мелі сваю калёнію ля Азоўскага мора, ля ўтоку р. Пубані ў гэтае мора, там, дзе цяпер Керч. Калёнія гэтая звалася Цьмутаракань. Вяцічы, што займалі прастору ля вышняе й сярэдняе Акі, былі таксама незалежныя. Але Радзімічы, што займалі прастору ля р. Сожа і ягоных прытокаў былі ў 984 г. заваяваныя Валадзімерам Кіеўскім[3]) і залежылі ад Кіева. Княства Смаленскае — у вярхоўю Дняпра і вярху Волгі — было незалежнае. Але беларускае плямя Дзярвяне, што займала прастору ля р. Вужа й Цецерава, правых прытокаў Дняпра, зь местамі Аўруч, Карасьцень і Малін залежыла ад Кіева. У Дзераўскай зямлі княжыў Сьвятаслаў. Таксама залежыла ад Кіева Тураўска-Пінскае княства, каторага прастора прасьцягалася паабапал р. Прыпяці. Люднасьць гэтага княства складалася на паўднявым баку Прыпяці з часьці Дзярвян, а на паўночным баку — з часьці Дрыгвічоў.

Як ведама, Дзярвяне спрадвеку, яшчэ з дагістарычных часоў вялі заўзятыя войны з украінскімі Палянамі. Яны й цяпер імкнуліся вызваліцца ад Кіева. У ўкраінскім Кіеве тады княжыў Валадзімер Сьвятаславіч. Свайго старшага сына Сьвятаполка ён пасадзіў за князя ў Тураве, сталіцы Тураўска-Пінскага княства, спадзяючыся, што ён будзе дзяржаць гэтую зямлю пры Кіеве. Сьвятаполк, адылі, падпаў пад уплыў мясцовага беларускага жыхарства і падняў паўстаньне супроць Украіны. Яго перамог бацька Валадзімер і пасадзіў у турму, з каторай выпусьціў каля часу свае сьмерці, але не давяраў яму, не даваў жаднага ўдзелу і дзяржаў пры сабе ў Кіеве.

Калі Валадзімер умёр у 1015 г., то Кіяўляне, баючыся, каб Сьвятаполк не захапіў улады, хавалі, пакуль маглі, сьмерць свайго князя. Калі сьмерць Валадзімерава сталася ведамай, то ўзьнялася вайна паміж ягонымі сынамі, у каторай Барыс і Глеб былі забітыя. Быў забіты і дзярвянскі князь Сьвятаслаў. У летапісе запісана, што Святаслаў быў сын Валадзімераў і што яму сьмерць прычыніў Сьвятаполк. Але дзіўна, што калі забітыя на загад Сьвятаполкаў Барыс і Глеб былі пасьлей прызнаныя за мучанікаў, то гэтага ня толькі ня зроблена із Сьвятаславам, але няма пра яго цёплых успамінаў у кіеўскіх летапісцаў. З гэтага гісторык Пархоменка робіць правільны вывад, што Сьвятаслаў ня быў сынам Валадзімеравым, але што ён паходзіў зь мясцовае дзераўскае (накш дзярвянскае) дынастыі.[4]) Але й болей. Дзярвяне й Дрыгвічы бралі дзейны ўдзел у вайне Сьвятаполка зь кіеўскімі князямі, зь іх ён набіраў сваё войска. У летапісу кажацца, што «Сьвятаполк зыбраў воі ў Дзервах і ў Пінску і сеў у Кіеве, думаючы ўсю брацьцю загубіці». Такім парадкам ён карыстаўся войскам із свайго краю, як галоўнай сілаю, з каторага помачай хацеў удзяржацца ў Кіеве».[5]) Гэта была вайна Дзярвян і Дрыгвічоў, галоўна Дзярвян із Украінаю. Дык нашто было Сьвятаполку губіць дзераўскага князя, таксама Дзервяніна? Выясьненьне можа быць толькі, што Сьвятаслаў зьгінуў у вайне зь Кіевам, але, кіеўскія летапісцы, завучы Сьвятаполка акаянным, прыпісуючы яму розныя праступкі, за адно прыпісалі і ўбіўства Сьвятаслава.

У менаваным часе чацьверты сын Валадзімераў, Яраслаў, быў князем у Ноўгарадзе. Там вялікае значэньне мелі Варагі. Гэтак тады звалі на Ўсходзе Эўропы старавечных Скандынаваў (Швэдаў, Норвэгаў і Данцаў). Варáгам прыяў і Яраслаў. Летапісец кажа, што Варáгі зьдзекаваліся над Ноўгарадцамі і над жонкамі іхнымі. З гэтае прычыны Ноўгарадцы паўсталі і выбілі Варáгаў. Яраслаў вельмі жалеў Варáгаў, але, хочучы адамсьціць Ноўгарадцам, ён прыкінуўся, што ім дараваў і папрасіў убіўцаў на часьць, на каторай і перабіў іх.

Калі Яраслаў адзержыў зь Кіева ад сястры Перадславы ведамку, што Дзярване на чале із Сьвятаполкам аказаліся пераможцамі, ён баяўся, што цяпер Ноўгарадцы ня пойдуць із ім супроць Сьвятаполка. Але, як ведама, у Беларусі, наймя ў Полаччыны былі доўгатрывалыя й частыя войны з Ноўгарадам за захоплены гэтым беларускі Пскоў. Дзеля таго варожыя да Беларусі Ноўгарадцы даравалі Яраславу забіцьцё лепшых людзёў іхных і ахвотна згадзіліся на чале зь ім ваяваць супроць Беларусаў. Хаўрусьнікамі Сьвятаполкавымі былі Печанегі, турска-татарскае плямя, што качавала ў паўднявых сьцяпох. Калі прышло да бітвы зь Яраславам, то войска Сьвятаполкава апынулася паміж двух азёраў, Печанегі былі на другім баку возера і не маглі памагчы. Сьвятаполк быў разьбіты. Тады ён папрасіў помачы ў свайго цесьця Балеслава Харобрага, і Яраслаў быў разьбіты.

Польскае войска, адылі, ня вышла адразу зь Дзярвянска-Дрыгвіцкае зямлі і наагул із гаспадарства Сьвятаполкавага. Відавочна, такія госьці ня былі прыемныя мясцоваму жыхарству, бо яно, як кажа летапіс, на загад Сьвятаполка напала на польскія аддзелы, шмат перабіла, астача разам із Баляславам уцякла да Польшчы.

Калі Яраслаў быў разьбіты Сьвятаполкам і Баляславам, ён, уцёкшы да Ноўгараду, гатаваўся ўцякаць далей да Варагаў, але Ноўгарадцы яго задзержылі, заявіўшы, што яны гатовы яшчэ раз біцца із Сьвятаполкам разам із ім, зыбралі грошы, нанялі Варагаў, і Яраслаў із ноўгарадзкім і варaскім войскам трэйці раз пайшоў на Сьвятаполка. Гэтым разам Сьвятаполк быў разьбіты, дарма, што Печанегі йзноў былі ягонымі хаўрусьнікамі.

Калі гэтак браты ваявалі, то северскі князь Імсьціслаў быў у северскай калёніі Цьмутаракані. Ён там мусіў ваяваць із сьцяповымі паўночна-каўкаскімі народамі, з Касогамі, як зваліся даўней Чаркесы, і іншымі. Адноўчы, калі касоскае й цьмутараканска-северскае войска сталі адно супроць аднаго, касоскі князь Радзедзя сказаў Імсьціславу: «Навошто маем губіць людзёў? Падолеемся адны мы, калі ты мяне здолееш, то возьмеш маемасьць маю і жонку маю, і дзеці мае і зямлю маю, а калі я здолею цябе, то вазьму тваё ўсё». Імсьціслаў адказаў: «Няхай так будзе». Радзедзя пры гэтым пасуліў бяз зброі, голымі рукамі біцца. Яны моцна і доўга біліся. Імсьціслаў пачаў слабець, бо Радзедзя быў вялікі і дужасіл. І сказаў Імсьціслаў: «О Прачыстая Багародзіца, памажы мне, калі я яго здолею, то пастаўлю царкву ў імя Тваё». Сказаўшы гэта, удырыў воб зямлю Радзедзяю, дакончыў яго ды пайшоў да зямлі Касоскае і дань узлажыў на Касогі. Зьвярнуўшыся да Цьмутаракані, паставіў царкву Сьв. Багародзіцы «каторая, кажа летапісец, стаіць і дагэтуль».

1) Што слова «государ» у рас. мове нерасейскае, адзначыў і рас. мававед Шахматаў.

2) Е. Ляцкий: Слово о полку Игореве, Прага, 1934, б. 89.

3) Гл. Проф. Вл. Пархоменко: У истоков русской государственности (VIII — IX вв.), Л. 1924, бачына 97.

4) Пархоменко, там-жа, бач. 106.

5) М. Довнар-Запольскёй: Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII ст., б. 75.

**(Далей будзе)**

# Зямельная сыстэма ў Беларусі ўчора, сяньня й заўтра

**(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)**

халёгіяй беларускага селяніна, з клімагам і якасьцяй глебы, а таксама на падставе таго, што давялося бачыць у іншых краёх, калісь на Ўсходняй Украіне, пасьля ў Польшчы, Нямеччыне, Даніі ды Францыі, і на падставе таго, што давялося чытаць і чуць ад іншых у закранутым пытаньні — асьмелюся выказацца на карысьць хутарскай сыстэмы.

Хутарская сыстэма, больш сыстэматычна праведзеная, чымся сталыпінская ды больш справядлівая чымся польская, гэта найбольш адпаведная сыстэма для Беларуса. Беларускі селянін — індывідуалісты. Гэты індывідуалізм праяўляецца ўсюды. Беларус можа сябе падпарадкаваць хвабрычнаму рэжыму, але як толькі запрацуе й заашчадзіць суму грошай, патрэбную для куплі сяаёй гаспадаркі, бяз жалю пакідае хвабрыку, ці якую іншую службу ды купляе сабе хутар. Тут ён сабе пан. Калі трэба, дык працуе, і то навет цяжка й доўга, але калі захоча, то ў кірмашны дзень паедзе на кірмаш, або ў нядзелю ў госьці. Гэта ягоная прыемнасьць і ўзнагарода за цяжкую працу. Беларускі селянін ня любіць, калі ім хто-небудзь кіруе. Ён ахвотна аддае «Божае Богу, а цэсарава цэсару», але сам сабе ўкладае плян пасеваў, сам бачыць, калі трэба падгастрыць лямеш, ці паправіць штосьці ў гаспадарцы і ня любіць чытаць на гэтую тэму загадаў з далёкай Масквы ці навет блізкага Менску. Ён любіць сьветлую й выгадную хату, вялікі панадворак і добры плот навокал будынкаў, сваю собскую студню й сабаку на дварэ. І толькі хутар патрапіць яму ўсё гэта забясьпечыць.

Сказанае вышэй кранае псыхалягічны бок пытаньня, магчыма на думку некаторых ня гэтак важны. Аднак-жа, уважаю, што псыхалягічны бок найважнейшы. Характар народу фармуецца на працягу тысячагодзьдзяў і ня можа быць зьменены на чыйсьці загад. Уводжаньне ў жыцьцё нечага праціўнага характару чалавека робіць яго нешчасьлівым, стварае пачуцьцё паніжэньня ды крыўды й выклікае, калі не актыўны, то ў кажным выпадку пасыўны супраціў. Гэтая акалічнасьць і лягла ў васнову няўдачы калектыўнай гаспадаркі.

Калі йдзе аб тэхнічны бок пытаньня, дык хутар дае селяніну вялізарныя карысьці. Хутар — гэта сяліба паложаная сярод свайго поля. З усіх бакоў — сваё. Усё поле відаць праз вакно і гаспадарка відаць з кажнага кавалка поля. Няма патрэбы выбірацца на працу на цэлы дзень і рыхтаваць лусту. Чалавек можа скарыстаць кажную хвіліну для працы на полі й есьці дома. Не патрабуе траціць часу на падарожжа. Вываз гною адбываецца ў працягу колькіх гадзін. Зьмену пасеваў чалавек праводзіць у залежнасьці ад яго асабістага пагляду й можа праявіць максімум ініцыятывы. Адпадае патрэба мець пастушкоў, бо жывёла можа пасьвіцца ў загарадах. Гаспадыня можа адарвацца ад дзяцей і хаты, ня трацячы іх з вока. Поле можа быць гаранае ў шырокія загоны. Адпадаюць суседзкія патравы, згорваньні ўзьмежкаў з мэтай пашырэньня свайго шнурка, значыцца адсоўваюцца прычыны суседзкіх звадак. Паасобныя будынкі хутару мугуць быць разбудаваныя так, каб пажар ня страціў усяго хутару за раз. Палі ўжо дастаткова вялікія, каб можна было карыстацца трактарам, радавой сеялкай, жніяркай-самавязалкай, ці навет камбайнам малога тыпу (гэтакія малыя камбайны можна бачыць у Даніі).

Зразумела, хутар павінен быць поўназямельны, г. зн. дастатковы, каб із сярэдняй сям'ёй зарабіць сабе й сям'і на хлеб, на папраўу гаспадаркі, на неабходныя сельска-гаспадарчыя машыны. Найгалаўнейшай нястачай хутароў, створаных пры Паляках, была малазямельнасьць і хаатычнасьць разьмяшчэньня. Пакуль электрыфікацыя ня бралася на ўвагу, селянін гэтага недахопу не адчуваў. У будучай Беларусі трэба браць на ўвагу электрыфікацыю й плянаваць разьмяшчэньне хутароў так, каб кажны зь іх мог мець доступ да сеткі. У гэтым пункце мы зьбліжаемся да прынцыпу пасёлка, але больш разрэджанага й неабмежаванага дзесяцьцю гаспадарамі. Трэба ўлічваць таксама прывязанасьць гаспадара да вады, а значыцца чарада хутароў павінна расьцягвацца ўздоўж ніжэй лежачых лугоў ці рэчак. З гэтага гледзішча ў Беларусі клопату ня было-б з увагі на шматлікасьць апошніх.

Кліматычныя ўмовы Беларусі, як ведама, такія, што пшаніцы нельга сеяць у такіх памерах, як гэта робіць Украіна ці Канада. Нашае-ж жыта ня ёсьць пажаданым прадуктам на Захадзе, праз што гаспадарка Беларусі павінна быць разьлічаная на гадоўлю ды экспарт гатовых пераатвораў гэтае гадоўлі. Гадоўля-ж вымагае лугоў, і гэта яшчэ адзін мамэнт, які прамаўляе за будаваньнем хутароў уздоўж рэчак і лугоў.

Я памятаю вёску, што складалася з 250 гаспадароў, зь якіх палова ня мела свайго хлеба далей як да Каляд. Пасьля Каляд бясхлебныя былі змушаныя пазычаць хлеб у багацейшых на адпрацоўку. Гэтак было да пары, пакуль панавала вясковая сыстэма. У 1927 годзе прайшла хутарызацыя і колькі гадоў пазьней у вёсцы ня было ніводнага гаспадара, які купляў-бы ці пазычаў-бы хлеб. Малазямельныя пабралі сабе хутары на аддаленых урочышчах, а пасьля колькіх гадоў хутарскай гаспадаркі гэтыя землі аказаліся ня горшымі за навозныя; бедныя дагэтуль гаспадары сталіся багатымі. Ведаю адзін прыклад калі шматдзетны гаспадар павінен быў шукаць заработку па лясох і іншых гаспадарох, бо меў у сяле ўсяго паўтара гэктара зямлі; калі-ж пераходзіў на хутар, атрымаў 27 гэктараў ялоўцавых кудраў ды чвыровых гораў. Ня гледзячы на гэта, знайшлося гэктараў зь пяць зямлі, на якой радзіла бульба й ячмень, а на рэшцэ плошчы гаспадар завёў гадоўлю авечак. Да прыходу бальшавікоў у 1939 г. гэты бедны батрак зрабіўся «кулаком» і як такі быў вывезены ў Карэлію.

У колішніх умовах перашкодай для хутарызацыі былі панскія землі й лясы дзяржаўныя й панскія. У пасьлякалгасных абставінах гэтае праблемы існаваць ня будзе. Вялічыня хутараў павінна зьмяшчацца ў межах 10—15 гэктараў, у залежнасьці ад якасьці зямлі. Хутар бязумоўна павінен быць собскасьцяй гаспадара, пад умовай, што будзе ён рацыянальна апрацоўвацца. Павінна быць скасаванае права падзелу хутару між нашчадкамі.

Бальшавікі закідаюць гэтай сыстэме немагчымасьць мэханізацыі земляробства. Але гэта перастарэлая тэорыя, бо сяньня індустрыя здольная прадукаваць трактары ў вельмі разьлеглай гаме, ад аднаконных плужкоў для агароднікаў да найвялікшых камбайнаў.

Некаторыя закідаюць, што хутаране зь цягам часу робяцца неграмадзкімі, што на хутарох няма магчымасьці аддаваць дзяцей у дзіцячы садок і г. д. Ніякі чалавек ня будзе грамадзкім, калі яму не хапае на пражыцьцё. Герархічна грамадзкасьць ёсьць патрэбай вышэйшай, чымся патрэба хлеба ці вопраткі. Калі хто радзіўся з грамадзкімі нахіламі, будзе грамадзкім не залежна ад таго, жыве ён на вёсцы ці на хутары. Што-ж да дзіцячых садкоў, дык на хутары, як ужо ўспаміналася, маці мае такія выгодныя ўмовы працы, што не патрабуе ніякіх садкоў і можа сама гадаваць сваіх дзяцей. А, ведама, свая маці не наймічка.

Прыкладам, у Даніі на скрыжаваньнях дарог паўстае свайго тыпу «сітэ». Тут будуюцца ўжо зусім як у мястэчку розныя рамесьнікі: каваль, сьлёсар, каладзей, некалькі прыватных гандляроў, або каапэратыўная крама. Часамі такі каваль ці сьлёсар мае й трактар і самаход ды абслугоўвае тых, што патрабуюць гэтае абслугі. Тут бязь ніякіх агульных плянаў кажны глядзіць з чаго хлеб есьць ды ўтрымоўвае свае прылады ў стане прыдатным да працы. Колькасьць такіх прадпрыемцаў рэгулюецца самім жыцьцём без загадаў з Масквы.

У гэтай-жа Даніі ў кажным такім «сітэ» ёсьць сьвятыня, школа, дом для старцаў; і г. д. Адно толькі, што тут рэдкае, гэта колькасьць паліцэйскіх. Затое сьвіней, кароў ды самакатаў тут пропасьць. Кароў тут гадуюць звычайна чырвоных ды трымаюць аж дзьве на гэктар, а ня так як у Саветах, дзе на колькі тысяч гэктараў зямлі ў калгасе ўсяго 200 кароў. Прычым трэба адцеміць, што глеба гэтай краіны — гэта пераважна палядавіковыя марэны, што і на большай частцы Беларусі. Праўда, Данія мае крыху больш ападкаў, але затое шмат менш сонечных дзён ды шмат больш вятроў.

**Ул. Ш.**

*Кнігапіс*

# Цэннае выданьне

**«БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ», ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНА»**
**МЮНХЭН 1957, бачынаў 216, ілюстрацыяў 75**

Чарговым выдатным дасягненьнем беларускае эміграцыі ёсьць сьвежа выдадзеная Беларускім Выдавецтвам «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне кніга «Беларускія Казкі». Кніга выпаўняе сабой вялікую нястачу, якая дагэтуль балюча адчувалася ў нашым эміграцыйным жыцьці: яна прыносіць добры й карысны матарыял для чытаньня й навукі чытаньня пабеларуску для нашага маладога пакаленьня на чужыне. Ня менш цікавым і прыемным матарыялам для чытаньня будзе яна й для старэйшых. Пры чым, гэты матарыял зьяўляецца вельмі цэнным і з гледзішча нацыянальнага ўзгадаваньня.

Народная творчасьць, як ведама, зьяўляецца нявычэрпнай крыніцай нацыянальных асаблівасьцяў дадзенага народу. У ёй як у люстры найпаўней адбіваецца душа народу, яго апрычоныя нацыянальныя рысы, яго пагляды й духовыя перажываньні. Чытаючы народныя творы, нашыя суродзічы на чужыне будуць мець найлепшую нагоду перанесьціся думкамі ў родную краіну, у цудоўны, але ўжо зацёрты новымі абставінамі жыцьця на чужыне, казачны сьвет народнае фантазіі, а нашыя наймалодшыя, што Бацькаўшчыны ня помняць або й радзіліся на эміграцыі, змогуць упяршыню пазнаёміцца з гэтым фантастычным сьветам свайго народу.

Багаты беларускі фальклёр быў шырака выкарыстоўваны нашай мастацкай літаратурай, як у ейнай тэматыцы ды сюжэтных матывах, гэтак і ў галіне мастацкае формы й паэтычнае мовы. Вось чаму, апрача арыгінальных народных казак у кнізе зьмешчана асобным разьдзелам рад літаратурных твораў нашых ведамых паэтаў і пісьменьнікаў, аснованых на народных казачных матывах. Гэты разьдзел, выконваючы тую-ж нацыянальную ўзгадавальную функцыю, што і арыгінальныя народныя казкі, адначасна пазнаёміць чытачоў з найлепшымі ўзорамі мастацкага выкарыстаньня нашымі паэтамі й пісьменьнікамі беларускіх народных матываў, а так-жа стылізацыі собскіх твораў на ўзор народны.

Выдавецтва здае сабе справу з таго, што выбар арыгінальных народных казак; як і літаратурных твораў з казачных матывамі ў гэтай кнізе ў значнай меры прыпадковы, што ў іншых абставінах гэты выбар мог-бы быць больш удалы й размавіты. Але гэта было выклікана нястачай патрэбнае літаратуры на эміграцыі: прыходзілася браць тое, што магчыма было дастаць. Гэта бясспрэчна абніжае вартасьць выданьня, але яго не абясцэньвае.

«Беларускія Казкі» заслугоўваюць на ўвагу і з гледзішча на мастацкую й тэхнічную форму выданьня. Гэта выданьне люксусовае й рэпрэзэнтацыйнае, што прыемна і самому ў рукі ўзяць, і другім паказаць. Кніга выдадзеная на добрай ілюстрацыйнай паперы, у прыгожай каляровай вокладцы, зьмяшчае ў сабе аж 75 ілюстрацыяў да паасобных казак, выкананых нашымі эміграцыйнымі мастакамі, а так-жа ўзятых з розных беларускіх выданьняў для моладзі ў БССР. З гледзішча на мастацкую форму выкананьня «Беларускія Казкі» зьяўляюцца чарговым выдавецкім дасягненьнем пасьля выдадзенага ў 1955 годзе вялікага збору твораў Янкі Купалы «Спадчына».

Часьць кнігі «Беларускія Казкі» паявілася ў папяровай каляровай вокладцы й каштуе 3 амэрыканскіх даляры, а другая часьць у цьвёрдай палатнянай вокладцы у цане 4 амэрыканскія даляры за адзін эгзэмпляр. З гледзішча на вялікі разьмер кнігі (216 бачынаў вялікага фармату), высокую якасьць выданьня й багатае мастацкае афармленьня, гэтая цана ня высокая й даступная для кажнага нашага суродзіча на чужыне.

**Аглядчык**

# Зь беларускага жыцьця

### XI-Ы АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

На Сёмуху ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся XI-ы Агульны Зьезд сяброў Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі, у якім прыняло ўдзел шмат сябраў гэтае арганізацыі й гасьцей. Старшынём Зьезду быў выбраны сп. П. Паўлоўскі, сябра Аддзелу ў Брадфордзе, а сакратарамі сп. сп. Ражанец і Шыркоўскі. На Зьезьдзе былі зробленыя справаздачы зь дзейнасьці, як Галоўнай Управы, так і Аддзелаў у Лёндане, Вірмінгаме, Брадфордзе й Манчэстары. Дзеля таго, што сёлета ЗБВБ сьвяткуе юбілей свайго дзесяцігодзьдзя, адразу пасьля адкрыцьця Зьезду а. Ч. Сіповіч зрабіў кароткі даклад, у якім падсумаваў вынікі праробленай Згуртаваньнем працы й выказаў некалькі думак аб ягонай працы ў будучыні. Яўным галасаваньнем былі выбраныя ў новую Галоўную Ўправу: сп. Павал Навара — старшыня, сп. Уладзімер Бутрымовіч — заступнік старшыні, а. К. Маскалік — сакратар, сп. М. Булыга — скарбнік, сп. Я. Сяўковіч — сябра Ўправы. З нагоды Зьезду й сьвята Сёмухі адбыліся Богаслужбы: на першы дзень Сёмухі ў Марыян Гаўз, на другі дзень — у Беларускім Доме, дзе служыў а. А. Крыт і прыгожа сьпяваў хор з Марыян Гаўз.

**А. Д.**

### БЕЛАРУСКІ ПІКНІК У ЛЁНДАНЕ (КАНАДА)

У нядзелю 19-га травеня Лёнданскі аддзел ЗБК ладзіў беларускі пікнік у ваколіцах Лёндану. Няхай чытач ня зьдзівіцца, што аб такой дробнай справе пішам у «Бацькаўшчыну». Аднак, калі ўзяць на ўвагу, што амаль да 1955 году было тут ня больш за тры чалавекі, якія называлі сябе Беларусамі, дык факт такога пікніку гэта ўжо пэўнае здарэньне ў мясцовым беларускім жыцьці.

На пікнік сабралася больш за сотню асобаў. Таронцкія Беларусы, разам із старшынём інж. Бруцкім, ехалі сюды вылучна з пачуцьця абавязку, каб падтрымаць правінцыю ў яе пачынаньнях. Якое-ж было іх зьдзіўленьне, калі ўбачылі вялікую грамаду, якую ня так ужо часта і ў самым цэнтры пабачыш.

На пікніку кажны мог, акрамя прыемных гульняў, паласавацца таксама тыпічна беларускай закускай, не гаворачы ўжо аб больш «міжнародных» спэцыяльнасьцях. Надзвычай сымпатычна займаўся гасьцьмі старшыня нашага аддзелу сп. Жураўскі. Ветліва абслугоўвалі ўсіх прысутных сп-ствы Іваноўскія, Шусты, Лімашэўскія ды іншыя. Для замацоўваньня сяброўства й цясьнейшае сувязі між мясцовымі суродзічамі, такія пікнікі карысныя. Маючы гэта на ўвеце, трэба як найчасьцей ладзіць падобныя імпрэзы.

**Б. Р.**

*Фэльетон*

## *Дзе-ж вы, ах дзе!?*

І былі-ж некалі часы, пасьля вайны зараз...

Цьвіцеў беларускі друк, а найбольш прэса. Гэта быў залаты век беларускага друку на эміграцыі. Завальвалі вас газэтамі, кніжкамі, партыйнымі праграмамі, часапісамі, заклікамі. Гудзелі ратарары, аж моршчылася з захапленьня ад адбіваных на ёй геніяльных думак папера. Пісалі ўсе. Няважна што, але пісалі. Была актыўнасьць, компэтыцыя, вайна за людзкія душы (і грошы!). Былі часапісы грамадзка-палітычныя, мастацка-літаратурныя, рэлігійныя, сатырычныя. Нам асабліва падабаліся сатырычныя, бо сатыра, на нашу думку, гэта — соль жыцьця, як сказаў-бы той пілязоп Торба — вантроба грамадзкага цела.

І дзе-ж яны ўсе падзеліся? Спопчыўся «патрыёт», зьгірдзіўся «беларускі патрыёт», здухаборылася «пуга», прасычэў «шарсьцень», ды так далей і да гэтага падабнае. Якая вялікая шкода! Толькі ў нас у Таронта саматужны асілак-духабор усё яшчэ ў «голасе» рэклямуе чужыя нагавіцы і пялёнкі з энтузьязмам і ўздымам падобным таму, які мелі камуністыя пасьля «разьвянчаньня» Сосо на XX-м зьезьдзе.

Іншая рэч з «Бацькаўшчынай». Вырасла яна гэта наша родная на славу нам і нашым дзеткам на пацеху. Ходзіць апошнімі гадамі таксама больш рэгулярна, чымся прадукт із «завода Кирова». Гэта-ж не ахцінькі. Ды толькі разоў глядзіш — і ў пасыцеўшым выглядзе. То таму, то гэнаму, ды й падвойны прысьвеціць. Няхай-жа-бы прысьвяціла хоць адзін мне, як ужо сталаму й заслужанаму супрацоўніку. Эх, крыўдна. Але так і быць. «Наплевать», казаў той «старэйшы брат»... (пэўна-ж, не на «Бацькаўшчыну» — М. К-р). Мы з «Бацькаўшчынай», як з кумой, казаў той, «свое люди, сочтемся», ды й далей за сваю пісаніну хлеб будзем есьці. Справа тут у іншым. Калі ня лічыць нью-ёркскага «Беларуса», што выходзіць рэгулярна на кажныя Каляды й Вялікдзень, то «Бацькаўшчына» ў нас сяньня адна.

Чаму-ж тады недахоп цікавага і рознаякаснага матар'ялу? «Дзе вы?» — пыталася ня так даўна газэта беларускіх пісьменьнікаў і журналістых. Я ня буду пытацца, але крычаць на трывогу. Братцы, сябры пяра, дзе вашае натхненьне, дзе прадукты мазгавога поту? Ці-ж ужо так хутка ажырэлі вашы мазгі, як казаў ці адзін ужо раз мой сябра прафэсар Грэскі? Пішэце, не лянуйцеся. Пасылайце. На вас надзею пакладае бацькаўшчына і «Бацькаўшчына». У добрай-жа рэдакцыі дык і сьметнік павінен быць поўны.

Але я тут і аб іншых, маладзейшых, ці яшчэ зусім пачынаючых пару слоў хачу. Хто пісаў, той умее. А тым малодшым, што пісаць думаюць, з парадаю пасьпяшыць на часе. Вось, паважаныя пачынаючыя, каб быць журналістымі і пісьменьнікамі, трэба мець наступнае:

1. **Псэўдонім або мятушку** (зь нястачы вынаходлівасьці, можа быць і «Прысутны» — прыпіска складальніка). Гэта — дзеля таго, каб вам ня трэба было саромімца за тое, што напішаце.

2. **Адвагу.** Гэта дзеля таго, каб тое, што выдумаеце, абавязкава запісаць. Ніколі не адкладайце. Залатыя думкі ня бываюць у вас кажны дзень. Бярэцеся адразу за пяро. Падумайце, як шмат багацейшая была-б людзкая скарбніца культуры, калі-б усе ходзячыя геніі запісвалі прынамся свае выбраныя творы.

3. **Здольнасьць назіраньня.** Калі ў вас яе няма — не бядуйце. Вырабіцца з часам. Пачынайце з маленькага. Пішыце аб «зьмястоўных дакладах», «урачыстых акадэміях, закончаных нацыянальным гімнам» і іншых драбніцах.

4. **Веданьне беларускае мовы.** Гэта мо самае найважнейшае. Ёсьць прыказка, якая кажа, што «дрэнны рамесьнік заўсёды вінаваціць свае прылады». А мова — гэта-ж ваша прылада, ды й амбіцыі-ж у вас больш, чым рамесьніцкія. Дык вучэцеся мовы, а талент пэўна-ж маеце, або знойдзеце. Ня пішыце так блага пабеларуску, як нядаўна пісаў адзін з пачынаючых: «... імшыў імшыцу і чытаў Ванэлю подле Лукаша...» Відаць, што гэты самародак добра яшчэ не апанаваў мовы, але пэўна-ж, пастарэе й паразумнее, дык мо людзі й зь яго яшчэ будуць. Самае галоўнае вунь, што нешта згарусьціў ды выслаў. А ці вы здабудзецеся на такую адвагу?

Дык давайце, да працы! Каб ня пыталіся — дзе вы? На вас пакладаюць вялікую надзею бацькаўшчына і «Бацькаўшчына».

**Міхась Козыр**




### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 14 Steel St., Spotswood-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. M. W. Kastelan,** 2, Rue Galvani Roubaix (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**